ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ
# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
12 МАЯ 1995 г. № 19 (3791) Кошт 400 руб.

## СОН ПЕРАД РЭФЕРЭНДУМАМ

**Вось і ўсё.
Засталося
Апошнюю кропку паставіць.
І Айчыны грудок
Замяце назаўсёды зіма.
Вось і ўсё.
Мой народ
На апошняй сваёй пераправе:
Памірае народ,
Калі мовы ў народа няма...**

**Як даўно не чуваць
На Радзіме пяшчотнага слова,
Як даўно мой народ
Анямелы
Зацята маўчыць...
Вось і ўсё.
Больш няма
Ні народа,
Ні роднага слова...
І злятаюцца ўжо
Нашы вочы кляваць
Крумкачы...**

**Вось і ўсё.
Апускаюцца рукі
У роспачнай скрусе,
І нікога вакол.
Ды і я на зямлі не прарок...
Вось і ўсё.
І няма больш маёй,
І няма Беларусі...
Замятае зіма
Назаўсёды
Айчыны грудок...**

Міхась БАШЛАКОЎ

## РОЗДУМ У МУЗЕІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

**Божа, няўжо гэта мы ўстаём з няволі,
З руінаў, якіх не бачыў спакутваны свет.
Ці гэта на нашым, а не суседскім полі
Зара свабоды ціха пазначыла след?
Ці зможам узняцца насустрач
госці жаданай?
Занадта цяжкія нашых душаў і цел ланцугі.
У сэрцах нашых, няволяю, страхам,
маной катаваных,
Ці адзавуцца прызыўныя,
зычныя волі званы?
Трэба ўстаць, бо іначай — няволі прадонне,
Мусім устаць, бо інакш — навякі немата.
Хай жа горда ўзаўецца над намі знак годнасці
й волі — "Пагоня",
Бо ці ж дарма прарочыў паэт, што яе
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць?!**

А. ЛЕСАЎЧУК



*Шмат было такіх народаў, што страцілі наперш мову сваю, так як той чалавек прад скананнем, каторому мову займе, а потым і зусім змёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*

*Францішак БАГУШЭВІЧ*

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

*Паслязаўтра — рэферэндум. Народ будзе вырашаць лёс таго, што яму належыць, незалежна ад таго, хоча ён гэта ці не хоча, прымае ці не прымае. Лёс таго, што як маці, як Радзіма, даецца нам ад нараджэння: лёс мовы і гістарычных сімвалаў. І, зноў жа, незалежна ад таго, як прагаласуе паслязаўтра гэты манкуртызаваны, пазбаўлены гістарычнай памяці, нацыянальнай самасвядомасці і нават свайго "я" народ, мова і сімвалы застануцца такімі ж ягонымі, як і былі. Нікуды беларусам не падзецца ад сваёй мовы, бо яна ў іх адна. Як маці ў дзіцяці. І якой бы добрай ні здавалася мачыха, яна ўсё ж мачыха, а не маці, і гэтым усё сказана. Тым больш у нашым выпадку: родная маці ад сваіх дзетак не адмаўляецца ніколі, якімі б няўдзячнымі яны ні былі, наадварот, увесь час у яе хочуць адабраць дзетак то заходняя мачыха, то ўсходняя... І гэтая, чарговая спроба, урэшце, закончыцца нічым. Але шкада часу, шкада страчаных тэмпаў беларусізацыі, якія давядзецца аднаўляць. І сорамна, сорамна перад нашчадкамі, перад усім цывілізаваным светам, сорамна за тое, што адбываецца зараз на Беларусі.*

## АДЧАЙ ТЫДНЯ

"Не ведаем, шаноўны прэзідэнт, на якой мове спявалі вам самому калыханкі, якія калыханкі слухалі вашыя дзеці! Нашыя, на жаль, ці ўсё ж на шчасце, з маленства чуюць пераважна мову беларускую, натуральна сугучную нашай прыродзе... Мы хочам, каб нашыя дзеці выраслі культурнымі людзьмі... Мы перакананыя, што культура гаспадарання зыходзіць ад культуры мыслення. А культура мыслення немагчымая без культуры маўлення... Мы нідзе ніколі не чулі, каб нехта ў нас абразіў чалавека, які гаворыць ці спрабуе гаварыць па-руску. А вось за беларускую гаворку "трасянкамоўныя" кіраўнікі абражалі нашых дзядоў і бацькоў, абражаюць нас. Мы не хочам, каб абражалі яшчэ і нашых дзяцей... Мы не заклікаем нікога да непадпарадкавання, не пагражаем грамадзянскаю вайною і страйкамі, але мы адстойвалі і будзем адстойваць нашае права на родную мову, культуру, гісторыю, сімвалы... Праводзьце свой рэферэндум, пан прэзідэнт, аднак ведайце, што ёсць на Беларусі беларусы, якія хочуць выхоўваць дзяцей на беларускай мове. Пакольк мы ёсць і гэтая зямля пакуль яшчэ наша, вы павінны лічыцца з намі!.. Мы не гультаі, мы хочам жыць, працаваць, гадаваць дзяцей пад гербам "Пагоня" і бел-чырвона-белым сцягам, бо гэтыя гістарычныя сімвалы — знак нашае незалежнасці, пад імі нарадзіліся, пачалі хадзіць, гаварыць, вучыцца нашыя дзеці... Мы хочам, каб нашыя дзеці маглі выхоўвацца ў беларускім садку, вучыцца ў беларускай школе і беларускім універсітэце, каб мы маглі чытаць беларускія газеты, слухаць беларускае радыё, хадзіць у беларускі магазін і, калі будзе трэба, беларускую паліклініку..."

*(Са звароту маладых сем'яў да прэзідэнта Беларусі).*

## СЕНСАЦЫЯ ТЫДНЯ

Тэлебачанне і газеты паведамілі, што на стале ў прэзідэнта краіны ляжыць указ аб вызваленні В. Ціхіні ад займаемай пасады старшыні Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь за тое, што ён быццам бы займаецца палітычнай дзейнасцю. Мы ніколі не з'яўляліся прыхільнікамі В. Ціхіні і ніколі не верылі ў ягоную аб'ектыўнасць, але — закон ёсць закон. А тое, што мяркуе (калі верыць СМІ) зрабіць прэзідэнт, — ёсць прамое парушэнне (каторы раз!) Канстытуцыі краіны. Апошнім часам чуткі пра магчымыя адстаўкі, што выходзілі з прэзідэнцкай адміністрацыі, не спраўджваліся: працуюць на сваіх месцах і Багданкевіч, і Шаладонаў, і Чыгір. Падабенства метадаў наводзіць на думку: мэта за ўсім гэтым адна: прыструніць, прыпалохаць, зрабіць паслухмяным... І толькі.

## АДКРЫЦЦЁ ТЫДНЯ

Былы Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, а цяпер пасол Беларусі ў Польшчы Георгій Таразевіч даў інтэрв'ю карэспандэнту "Народнай газеты" наконт блізкага рэферэндуму. Выказаўся Георгій Станіслававіч досыць радыкальна — аргументавана і абгрунтавана за дзяржаўнасць толькі беларускай мовы, за захаванне гістарычнай сімволікі, падкрэсліў абсурднасць пытання аб інтэграцыі з Расіяй і спробу ўзурпацыі ўлады адной з яе галінаў у апошнім пункце рэферэндуму. Дагэтуль мы неяк шкадавалі, што на Беларусі, у адрозненне ад іншых рэспублік былога СССР, у свой час не прыйшлі да ўлады нацыянал-камуністы (Бразаўскас, Шэварднадзе, Краўчук, Назарбаеў і інш.) і лічылі, што ў нас іх проста не было. Аказваецца, былі і ёсць (і не толькі Таразевіч), але іх неабальшавікі і неакамуністы своечасова "сплавілі"...

## ПРЫЗНАННЕ ТЫДНЯ

"Я і Аляксандр Лукашэнка ніколі не былі палітычнымі антыподамі", — заявіў карэспандэнту "Інтэрфакса" былы прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч. І яшчэ: "Я заўсёды быў і буду гатовы дапамагаць маладому беларускаму прэзідэнту, адкінуўшы ўсякія ўласныя амбіцыі". "Шутки в сторону, господа присяжные заседатели, командовать парадом буду я", — казаў некалі вялікі камбінатар. Што ж, разыграны спектакль падыходзіць, пэўна, да свайго лагічнага завяршэння. Пачакаем...

## ШАБАШ ТЫДНЯ

Дзеля "правільнага і аб'ектыўнага", а таксама "паспяховага" выканання праграмы асвятлення перадвыбарчай кампаніі і дыскусій напярэдадні рэферэндуму на Беларускім тэлебачанні паводле каманды "зверху" ўтворана "пастаянная каманда выступаючых". У склад яе ўвайшлі: У. Гасцюхін, В. Акулаў, І. Гукоўскі, А. Кузьміч, Г. Марчук, В. Тураў, Ю. Дудзінаў, М. Сяргееў... Нават павярхоўнае знаёмства са спісам пакідае ўражанне, што ён складаўся толькі адным рухам — СС "Белая Русь". З першымі вынікамі працы "каманды" мы ўжо мелі магчымасць пазнаёміцца: суцэльная хлусня, падтасоўка фактаў і езуіцкі цынізм. Адным з пачынальнікаў гэтага шабашу на БТ стаў паэт Генадзь Пашкоў.

## ПРАГНОЗ ТЫДНЯ

"Хутчэй за ўсё выбары не адбудуцца", — гэтакі прагноз далі на прэс-канферэнцыі кіраўнікі БНФ. Ён зроблены па выніках сустрэч з выбаршчыкамі. У прэсе, лічаць лідэры БНФ, выбарчая кампанія асвятляецца надта слаба і многія грамадзяне не ведаюць, за каго, за што і як галасаваць. Акрамя таго, многія заяўляюць, што галасаваць не пойдуць, бо не давяраюць ніякім галінам улады. Зрыў выбараў, лічыць З. Пазняк, пойдзе на руку рэакцыйным сілам і можа прывесці да абвастрэння палітычнай сітуацыі ў Беларусі. А таму: усе на выбары!

# ДА ГРАМАДЗЯН НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСІ

Дарагія сябры беларусы!

Рэферэндум, навязаны вашаму народу ворагамі беларускай дзяржаўнасці, — падзея, якая можа пераўтварыць вас і ваш народ у новых рабоў новай імперыі, што прыкрываецца пакуль што назваю СНД.

Калі вы прагаласуеце супраць сваёй дзяржаўнай сімволікі, то вы здрадзіце ўласнай гісторыі, якая нацыянальныя беларускія сімвалы не адзін раз дэманстравала свету ў часы свайго найвысокага духоўнага ўздыму.

Калі вы прагаласуеце за інтэграцыю з Расіяй, то здрадзіце Каліноўскаму ды іншым змагарам за дзяржаўную незалежнасць Беларусі. Вы перастанеце быць слаўнаю грамадою беларусаў, якая выйшла на гістарычную арэну ў XX стагоддзі, каб назвацца, як пісаў Янка Купала, людзьмі!

Калі вы прагаласуеце за дзяржаўнасць расійскай мовы на сваёй зямлі, то гэтым самым асудзіце на смерць пявучую мову Скарыны і Коласа, Багдановіча і Купалы, Быкава і Барадуліна. Ніколі ўжо ворагі беларускай мовы, якіх добра бачыў вялікі патрыёт Янка, не дадуць ёй падняцца. Двухмоўе — гэта гадзючая двухязыкасць, якое прапагандуецца толькі з адной мэтай — забіць беларускую душу, беларускую мову і культуру, знішчыць падмурак беларускай дзяржаўнасці.

Расійскія шавіністы намагаюцца давесці, што беларусы, расіяне і ўкраінцы падобныя, але яны ніколі не кажуць, што мы роўныя, бо не прызнаюць правы беларусаў і ўкраінцаў на такую ж дзяржаву, якую маюць яны. Усе народы падобныя адзін на аднаго, але найважнейшая іх прыкмета ў тым, што яны раўнапраўныя!

Калі нацыянальная ідэя беларусаў на рэферэндуме будзе раздушана, то гэта будзе ўдар у самае сэрца Украіны, бо імперская Масква, праглынуўшы Беларусь, пажадае новай, яшчэ большай спажывы.

Дарагія браты і сёстры! Хай вам і нам прыкладам будзе нешматлікі, але магутны чачэнскі народ, які сёння памірае на крыжы за вашу і нашу свабоду. Не здрадзьце ж яму! Не здрадзьце і нам, вашым найбліжэйшым пабрацімам, украінцам, а галоўнае — не адступайце ад сваіх завяеў, ад свайго ўласнага дзяржаўнага духу, якім сілкуецца Еўропа і ўвесь свет.

Ніводны народ на Зямлі не зазнаў такой крыві і такога прыніжэння, як беларусы. Мы верым, што настаў час адраджэння Беларусі, і ніхто не зможа запыніць вясны, якая нарадзілася ў Белавежскай пушчы на вашай зямлі.

Слава незалежнай Беларусі!

Слава беларуска-ўкраінскаму братэрству!

**А. ГАНЧАР, М. ГАРЫНЬ, П. ДАРАЖЫНСЬКІ, І. ДРАЧ, М. КАРОБКА, Р. ЛУБКІЎСКІ, Ю. АРАБЕЦЬ, Д. ПАЎЛЫЧКА, В. ЧАРНАВІЛ**

*4.05.1995 г.*

Выбары

# КАГО ВЫБІРАЕМ, СПАДАРСТВА?

Калі б месяцы два назад у мяне спыталі, які занятак, на маю думку, сёння ў нас самы непрэстыжны, я б не задумваючыся адказаў, што дэпутацкая дзейнасць у парламенце. Гэтая думка была б вынікам не толькі ўласных назіранняў у час парламенцкіх сесій, а і шматлікіх сацыялагічных апытанняў грамадскай думкі, якія штораз пацвярджалі надзвычай нізкі рэйтынг народных абраннікаў.

Менавіта па гэтай прычыне, калі быў нарэшце прызначаны дзень выбараў новага складу Вярхоўнага Савета, у галаве варухнулася думка: пэўна, гэтым разам наогул не знойдзецца жадаючых балаціравацца ў вярхоўны орган заканадаўчай улады краіны, нягледзячы нават на дэпутацкія прывілеі, пастанову аб якіх прынялі народныя абраннікі напрыканцы сваёй дзейнасці.

Божа літасцівы, як жа я памыляўся! І стала гэта відавочна ледзь не ў першы дзень рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты выбарчымі камісіямі. Сёння, за дзень да выбараў, можам паведаміць канчатковую лічбу зарэгістраваных кандыдатаў у дэпутаты, якую назвалі мне ў Цэнтрвыбіркаме. Вось яна: 2348. На 260 парламенцкіх месц. Па 9 прэтэндэнтаў (у сярэднім) на кожнае. Не ведаю, ці дамагаліся такіх конкурсаў нашы самыя прэстыжныя ВНУ.

Тут, у Цэнтральнай выбарчай камісіі, я прагледзеў спісы кандыдатаў у дэпутаты. Стракатая, скажу вам, карціна. Мабыць, няма на Беларусі такой прафесіі, якая б не была тут прадстаўлена. Інжынеры і старшыні калгасаў, настаўнікі і ўрачы, леснікі і пажарныя, літаратары, мастакі і артысты. Ёсць нават хатнія гаспадыні і беспрацоўныя. Адзін з супрацоўнікаў камісіі паведаміў, што, па ягоных звестках, сярод кандыдатаў у дэпутаты ёсць чалавек, які знаходзіцца зараз у следчым ізалятары (як небезвядомы прэзідэнт МММ Маўродзі, які з "Матросской цішыні" трапіў у Расійскую дзяржаўную думу); што адзін з тых, за каго 14 мая пойдзе галасаваць народ, нядаўна выпісаўся з наркалагічнага аддзялення псіхіятрычнай бальніцы, дзе лячыўся ад алкагалізму. Дзіўна? А чаго здзіўляцца! Закон аб выбарах не прадугледжвае медыцынскага агляду на прадмет вызначэння псіхічнага здароўя народных абраннікаў.

Што тычыць правядзення сёлетняй выбарчай кампаніі, дык я б яе ахарактарызаваў словамі персанажа аднаго вядомага рэкламнага роліка: "Это что-то!" "Это что-то" тычыцца, бадай, усіх аспектаў падрыхтоўкі да выбараў. Хоць бы і знаёмства з кандыдатамі ў дэпутаты. Запомніць толькі іх прозвішчы — гэтак жа цяжка, як запомніць твары людзей у вокнах пасажырскага цягніка, што імчыць міма цябе.

А што да іх выбарчых праграм, дык з трох хвілін эфірнага часу, адведзеных кожнаму кандыдату, такое-сякое ўяўленне пра іх можна было скласці. Ну і яшчэ з выбарчых улётак, якія, я, напрыклад, ці не кожны дзень вымаў са сваёй паштовай скрынкі.

Што асабліва адклалася ў памяці з тых праслуханых і прачытаных праграм? Гэта, па-першае, лозунгі агульнапалітычнага плана. Вельмі многія з іх зместам і пафасам нагадвалі да болю знаёмыя лозунгі нашага слаўнага гістарычнага мінулага, тыпу: "Мір хацінам, вайна палацам!", "Уся ўлада Саветам!", "Фабрыкі — рабочым, зямлю — сялянам!", "Смерць эксплуататарам!", "Усе на барацьбу з Антантай!" (вінаваты, — з заходнім капіталам, які мае на мэце ператвараць нашу краіну ў сыравінны прыдатак капіталістычных дзяржаў).

На другім месцы — абяцанкі зрабіць наша жыццё райскім. Ды ў самыя кароткія тэрміны. Як толькі кандыдат у дэпутаты зойме парламенцкае крэсла, тут жа кожны грамадзянін рэспублікі атрымае тое, пра што зараз можа толькі марыць. Ну, скажам, 250-доларавую штомесячную зарплату, пераадоленне злачыннасці, наладжванне адмысловага медыцынскага абслугоўвання, паляпшэнне жыцця пенсіянераў і жанчын... Дарэчы, адна з прэтэндэнтак на дэпутацкае крэсла выказалася ў тым сэнсе, што кожная жанчына заслугоўвае таго, каб мець добрага мужа.

Мне асабіста больш за іншыя спадабалася выбарчая праграма аднаго з кандыдатаў у дэпутаты (дарэчы, па маёй выбарчай акрузе), які заявіў: "Главная цель моей общественной деятельности — отстаивать интересы жителей микрорайона: рабочих, служащих, пенсионеров, инвалидов и ветеранов войны и труда, военнослужащих, молодежи, женщин и детей". А каб выбаршчыкі не падумалі, што гэтыя яго словы — пустыя абяцанкі, урачыста клянецца, што калі яго выберуць у Вярхоўны Савет, ён "реконструирует крыши в домах NN 3, 5, 77, 26, 36, 34 по улицам Калиновского и Седых".

Жарты жартамі, а — сумленная ў чалавека пазіцыя. Каб не цешылі сябе надзеяй нейкія там жыхары Гомеля ці Пінска, што ён і ў іх пачне рамантаваць дамы. Наш слаўны прэтэндэнт не бачыць асаблівай розніцы паміж ЖЭСам і парламентам. І правільна робіць. І адзін і другі павінен служыць людзям...

Усё гэта было б смешна, калі б не было так сумна. Хоць, заўважым, яшчэ больш сумна адчувала сябе адна мінская студэнтка, якая адчыніла дзверы тром незнаёмым хлопцам, што адрэкамендаваліся агітатарамі з выбарчага ўчастка. І ці то яны не былі ўпэўнены ў вартасцях кандыдата ў дэпутаты, якога прадстаўлялі, ці то па іншай прычыне, але, звязаўшы дзяўчыну, абрабавалі кватэру, выгукнуўшы на развітанне знаёмыя ім з дзяцінства словы: "Усе на выбары!"

Усе на выбары? Ну, а тым сам, спытае каторы чытач, таксама — як усе? Не, я, відаць, зраблю так, як мой мудры прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, які ў час сваёй прэс-канферэнцыі на аналагічнае пытанне адказаў: "Не пайду! Я ім не веру, бо ўсё роўна падмануць!"

Вось так. А шараговаму грамадзяніну, як і прэзідэнту, таксама — якая радасць быць падманутым?

**М. ЗАМСКІ**

З нагоды

# АБСУРД У КАНЦЫ СТАГОДДЗЯ

Як можна супрацьстаяць злачыннасці, вар'яцтву, бескультур'ю? Не падтрымліваць злачыннасць, самому найперш не станавіцца вар'ятам і не губляць маральных прынцыпаў. Як толькі грамадства па розных прычынах страчвае інстынкт маральнага самазахавання, то верхаводзіць ім вельмі хутка пачынаюць маргіналы. Гісторыя XX стагоддзя ад пачатку да канца насычана такімі прыкладамі. І наводзіць далёка па іх хадзіць? У так званай "ціхай і мірнай" Беларусі маем зараз мо найвышэйшы паказчык такога апалітычнага, антысацыяльнага і амаральнага становішча. Нездарма ж ёсць прымаўка, што ў ціхім балоце нячысцікі водзяцца.

Аднак няма безвыходных сітуацый. Ну, падвялі нявопытнасць, празмерная даверлівасць, дэзарыентаванасць — што белае, а што чорнае. Але можна ўрэшце адчуць, што нешта тут не так. І знайсці прычыны, што робяць наша жыццё такім бездапаможным. І не паддавацца на ўгаворы таго, хто мякка сцеле (зноў скарыстаем словы з арсенала калектыўнага народнага вопыту, які не можа падвесці).

Мала што каму прыйдзе ў галаву — чужым коштам збудаваць сабе суперкалгас на нарыхтоўцы гарматнага мяса для чужых войнаў і выхавання бязмоўнага племені, над якім можна праводзіць самыя нялюдскія эксперыменты. Каб гэта зрабіць, трэба знішчыць апошнія маральныя масты, што лучаць з нацыянальнай годнасцю, гісторыяй, культурай. А потым усё, згодна з задумай, пойдзе як па масле!..

Гэта — злачынна. Патрабуецца юрыдычная і міжнародная адзнака такім пачынанням, што ўзведзены ў ранг "барацьбы за лепшае жыццё для народа". Але каму там у ААН галава баліць з-за небяспекі, што навісла над адным з яго сябраўзаснавальнікаў, які так моцна пацярпеў у апошняй сусветнай бойні? А тут — толькі згоднасць ды патуранне і ніякага пратэсту з боку ўлад, заканадаўства, кантролю!

Канешне, можна падкупіць, задобрыць абяцаннямі, прывілеямі, падачкамі тых, ад каго ў дадзены мо-

## ГІСТОРЫЯ: ПАЗБАЎЛЕННЕ СТЭРЭАТЫПАЎ

**Нядаўна ў выдавецтве "Беларусь" пабачыла свет другая частка "Нарысаў гісторыі Беларусі". Як і папярэдняя, яна вызначаецца новым поглядам на падзеі мінуўшчыны, імкненнем аўтарскага калектыву як мага больш поўна і аб'ектыўна даследаваць падзеі, што адбываліся на складаным гістарычным прамежку, у тым ліку і ў трыццатыя гады. Да напісання "Нарысаў..." былі прыцягнуты найбольш вядомыя і аўтарытэтныя гісторыкі. Безумоўна, ім даводзілася няпроста. Справа ў тым, што доўгі час на нацыянальную гісторыю прынята было глядзець з-за ідэалагічных і партыйных указанняў аднабакова, з прарасійскіх пазіцый.**

**І вось гісторыя Беларусі, *пазбаўленая стэрэатыпаў.* Несумненна, першая ў шэрагу выданняў, якія павінны (а ў гэта хочацца верыць!) з'явіцца ў далейшым. А пакуль яна рэкамендавана і ў якасці дапаможніка студэнтам вышэйшых навучальных устаноў Беларусі, і як свайго роду настольная кніга для кожнага, хто ганарыцца тым, што ён беларус.**

**Пэўным падагульненнем зробленай работы, вызначэннем далейшых перспектыў стала прэзентацыя другой часткі "Нарысаў..." у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук Беларусі. Перад прысутнымі выступілі дырэктар інстытута М. Касцюк, дэкан гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта М. Шупляк, галоўны рэдактар выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі Б. Сачанка, прадстаўнік Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь Н. Ганошчанка і іншыя. Адзначалася важкасць набыткаў аўтарскага калектыву, падкрэслівалася неабходнасць не спыняцца на дасягнутым, выказвалася ўпэўненасць, што неўзабаве павінны з'явіцца і іншыя аналагічныя дапаможнікі. Прынамсі, пра свой падручнік рупяцца на гістарычным факультэце універсітэта.**

**Не абышлося ў час прэзентацыі і без палемікі. Герой Савецкага Саюза А. Філімонаў мяркуе, што выхад "Нарысаў..." нельга лічыць своечасовым і патрэбным.**

## НЕВЯДОМЫЯ КНІГІ З БЕЛАРУСІ

**21—25 красавіка ў Будапешце прайшоў 2-і Міжнародны кніжны фестываль, які пачаў праводзіцца ў сталіцы Вугоршчыны з мінулага года і, падобна на тое, становіцца адным *з буйнейшых традыцыйных фестываляў* у Еўропе. На гэты раз у ім брала ўдзел блізу 200 кнігавыдаўцоў з многіх краін Еўропы (апроч Бенілюкса і Скандынавіі), а таксама ЗША, Расіі і Японіі. Удзел прадстаўнікоў Беларусі забяспечыў Беларускі Фонд Сораса.**

**У беларускім павільёне былі выстаўлены мінулагоднія выданні большасці дзяржаўных і некаторых незалежных выдавецтваў нашай краіны. Каардынатар культурных і выдавецкіх праграм БФС А. Анціпенка ўзяў удзел у сустрэчы выдаўцоў з Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, на якой распавёў пра стан і перспектывы выдавецкай справы на Беларусі, ахарактарызаваў прывезеныя ў Будапешт выданні. Сярод іх найбольшай цікаўнасцю — і попытам — наведвальнікаў і менеджэраў карысталіся выданні менскай Незалежнай выдавецкай кампаніі "Тэхналогія" (В. Багдановіч): "Беларусь. Новая краіна ва Усходняй Еўропе" (у англійскай, нямецкай і французскай мовах) У. Новіка, а таксама кніга К. Пікарды "Менск. Гістарычны шляхаводнік" (па-ангельску). Адзначаліся альбом "Іканапіс Беларусі XV—XVIII стагоддзяў" выдавецтва "Беларусь" і толькі што выдадзеная выдавецтвам "Навука і тэхніка" кніга гісторыка Г. Сагановіча "Невядомая вайна: 1654—1667" — пра вайну Маскоўскай дзяржавы супраць Вялікага княства Літоўскага і Кароны Польскай і тагачасныя падзеі на тэрыторыі Беларусі.**

**На фестывалі не прысуджалася дыпломаў і ўзнагарод: працавалі "круглыя сталы" рознай тэматыкі, ладзіўся абмен інфармацыяй. У апошні дзень працы кнігі з Беларусі былі спрэзентаваны універсітэту імя Ларанда Этваша, у якім ёсць кафедра ўсходнеславянскай і балтыйскай філалогіі і пэўная колькасць студэнтаў спецыялізуецца ў беларускай мове, літаратуры і гісторыі.**

## НА ПРЭМІЮ МЕЛЕЖА

**Пасяджэнне секцыі прозы Саюза беларускіх пісьменнікаў на гэты раз пачалося з вылучэння прэтэндэнтаў на атрыманне прэміі СП імя І. П. Мележа. Аднагалосна кандыдатам на лаўрэацтва названы пісьменнік Андрэй Федарэнка за кнігу прозы "Смута". Затым была абмеркавана творчасць сяброў літаб'яднання, што дзейнічае пры Іванаўскай раённай газеце Брэсцкай вобласці — Аляксея Каўкі, Анатоля Дзенісейкі і Васіля Жушмы. У выніку Васіль Жушма рэкамендаваны секцыяй да ўступлення ў сябры СП.**

*Анонс*

# "БОГ СЯРОД НАС"

Такая назва пазначана на заўтрашняй афішы Вялікай залы філармоніі. "Бог сярод нас" — гэта не проста прэм'ера новай праграмы вядомай беларускай вакальнай групы "Камерата", якой кіруе яе заснавальнік і лідэр Алег Шыкуноў. Гэта — прэзентацыя новай культурнай з'явы, самабытнага і наватарскага мастацтва, аналагаў якому, на думку спецыялістаў, няма ў свеце. "Бог сярод нас" — гэта васьмічасткавы твор, заснаваны на тэкстах Старога запавета, узятых з артадаксальнай Біблії. Кампазітар — Алег Шыкуноў... Здавалася б, пра якое наватарства можа быць гаворка, калі ці не кожны мастак, музыкант, нават без пільнай на тое духоўнай патрэбы, звяртаецца да біблейскіх тэкстаў, сюжэтаў? Дайце веры, тое, што мае адбыцца заўтра, 13 мая, у Беларускай дзяржаўнай філармоніі, — і сапраўды не мае аналагаў сярод вядомых нам узораў музычнага (і музычна-відовішчнага) мастацтва. Ідзіце — і пераканайцеся! А калі вам патрэбны аргументы — чытайце далей.

Далей варта паведаміць, што "Бог сярод нас" — твор сімфанічны, але партытура яго будзе ўзноўлена шасцю галасамі вакалістаў "Камераты". Сп. Шыкуноў распрацоўвае тэорыю тэмбравага голасу, трактуе вакальны ансамбль як аркестравы склад, у якім шэсць пеўчых галасоў ператвараюцца ў настолькі гнуткія "музычныя інструменты", што могуць узнаўляць гучанне, скажам так, дзівоснага аркестра з трыццаці тэмбраў! Варта паведаміць таксама, што "Бог сярод нас" паўстане як маляўнічая містэрыя: будуць своеасаблівыя пластычныя ілюстрацыі ў выкананні ансамбля пантамімы "Рух" пад кіраўніцтвам У. Колесава, атмасферу народнага дзейства дапамогуць стварыць дзіцячыя харавыя калектывы пад кіраўніцтвам У. Глушакова (Белтэлерадыёкампанія) ды А. Мазуравай (ліцэй пры Акадэміі музыкі), трупа навучэнцаў Беларускага харэаграфічнага вучылішча. Імправізацыйная стыхія будзе працінаць і незвычайную гукавую атмасферу: да ўдзелу ў выкананні запрошаны добрыя творчыя партнёры "Камераты" — знакаміты арганіст Алег Янчанка ды вядомая сваім новым джазавым стылем расійская група "Архангельск".



У канцэртнай практыцы нашай краіны гэта ўнікальны выпадак спонсарскай падтрымкі сур'ёзнага, некамерцыйнага, непапулярнага мастацтва. Мінская фірма "Мэджык" (генеральны дырэктар Ю. Будзька) выдзеліла сродкі на запіс праграмы і зрабіла рэкламна-выдавецкую прадукцыю для канцэрта. Спонсарамі з'яўляюцца таксама фірмы "Петрашоп", "ЮрыЛайт", "Фітамак", якія прадастаўляюць гукавую апаратуру, светлавое абсталяванне, забяспечваюць афармленне сцэны. Білеты для жадаючых трапіць на прадстаўленне "Бог сярод нас" абыдуцца разоў у 10 даражэй за звычайныя філармонічныя. Аднак артысты не будуць мець з гэтага ніякага заробку: грошы, атрыманыя ад продажу білетаў, спатрэбяцца хоць на частковае пакрыццё выдаткаў па прыёме расійскіх удзельнікаў праграмы.

**С. Б.**

*На здымку: ансамбль "Камерата".*
*Фота Ж. МАЕРАВАЙ*

*Памяркуем*

# І НЕ ТОЕ ПЕРАЖЫВАЛІ...

**Выпрабаваць,** паводле "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы", гэта "праверыць чые-небудзь якасці, здольнасці". Далей ідуць красамоўныя прыклады: *Выпрабаваць цярпенне, выпрабаваць сваю сілу.*

Выпрабаванні, напэўна, бываюць у кожнага, толькі не ўсе іх усведамляюць, не ўсе пераносяць з годнасцю і не ўсе робяць адпаведныя высновы.

Адзінае, з чым можна пераблытаць выпрабаванне, — гэта кара божая, аднак гэтую тэму мы з пэўных прычын развіваць не будзем.

Выпрабаванні выпадаюць на лёс цэлых народаў. Яны абрынываюцца ў выглядзе эпідэмій, землятрусаў, засух, войнаў, рабства і таму падобных катаклізмаў, якія нясуць смерць, голад, патрасенні, маральную і фізічную дэградацыю. Мы ведаем, якія цяжкія выпрабаванні выпадалі на долю армян, яўрэяў, японцаў, балгар, немцаў. Народы і цывілізацыі, што зніклі з твару Зямлі, мабыць, не вытрымалі пасланых звыш пакут. Тое, што адбываецца ў краінах сучаснай Афрыкі, — таксама з'ява надзвычайная, а значыць — невыпадковая.

Праверкай на трываласць можа быць нават сацыяльны лад. Менавіта ў такой ролі выступіў, здаецца, сацыялізм. Бальшавікі з курапатамі і гулагамі ды "чырвонымі кхмерамі" з матыкамі для прабівання чарапоў — вось яго сапраўдны, да пары прыхаваны ад свету воблік.

Скажаце, містыка? Тут мімаволі паверыш у нейкае "звыш". Хіба не выпрабаваннем была, напрыклад, для беларусаў фашысцкая акупацыя? Нідзе столькі не палілі людзей жывымі, як у нас. Прычым людзей нявінных, цывільных, старых і малых. Даводзілася чуць, што калі чалавек згарае жывым, душа не паспявае аддзяліцца ад цела і таксама гіне беззваротна. Бессмяротная нібыта чалавечая душа...

А хіба не прымусіў нас пра многае задумацца Чарнобыль? Усё часцей людзі задаюць сабе пытанне "За што?" і бачаць за гэтым насланнём якуюсь патаемную *задуму.*

Наша суседка Русь звычайна выпрабоўвалася ўладай. Там былі вечныя непаразуменні з уладарамі — царамі ды генсекамі. То дэспат, то садыст, то адукаваны дэспат, у аднаго манія велічы, у другога — манія праследавання ці яшчэ якая-небудзь трасца. Катастрафічна не шанцавала. А завядзецца хто мяккасардэчны (у параўнанні з папярэднікамі), дык яго ці ў расход пусцяць, ці проста ссадзяць з трона і адцісніць у кут. Каб памятаў, дзе выпала жыць і ўладарыць.

Цяпер падобнае ж выпрабаванне напаткала і нас... І мы — вось жа парадокс! — не *меўшы сваіх уласных сатрапаў,* пры дапамозе звычайнага бюлетэня ўзялі і выбралі чалавека, які чым далей, тым больш нас здзіўляе.

Бясслаўны фінал працы гэтага Вярхоўнага Савета — выключна яго заслуга. Апазіцыю з залы пасяджэнняў літаральна выкінулі, прыдумаўшы (ці падстроіўшы) нейкія тэлефонныя пагрозы. Каторы тыдзень нам абяцаюць паказаць плёнку, хаця "народ і так ведае праўду". У гэтым святле па-інакшаму ўспрымаюцца заявы прэзідэнта наконт адказнасці. Маўляў, **з мяне спытаюць, я за ўсё адказны.** Значыць, і за тое, як абышліся з апазіцыяй, — таксама? І за тое, што выбарчая кампанія — як мокрае гарыць? І за многае іншае, з-за чаго цяпер падаюць духам нават вялікія аптымісты?

Нельга не звярнуцца да сустрэчы прэзідэнта з прадстаўнікамі прэсы. "Надо честными быть!" — *як заўсёды пранікнёна* і напорыста заклікаў прэзідэнт. Што ён пад чэснасцю мае на ўвазе — зразумець цяжка. Быць чэснымі — гэта, напэўна, думаць, як ён, падзяляць яго перакананні. Баюся, што большасці з журналістаў гэты ганаровы эпітэт не пагражае, пакуль прэзідэнт думае так, як думае, і робіць так, як робіць.

Народы, пазбаўленыя свабоды, жывуць інстынктамі, пісаў рускі пісьменнік М.Кураеў. Прэзідэнт як тыповы прадстаўнік пэўнай часткі народа, таксама, думаецца, дзейнічае інстынктыўна. Што яму і ўсім нам дасць яго задума — рэферэндум, як той казаў, "будем посмотреть". З філасофскага пункту гледжання тут можна знайсці нават плюсы. У народа з'явіцца магчымасць самапазнання, а значыць, і самаацэнкі. Вялікая рэч, асабліва калі інстынкты распаразаліся...

Так што не ўпадайце ў дэпрэсію, спадары-беларусы! І не тое перажывалі!

**Г. К.**

# ПАДАРОЖЖА Ў ЧАСЕ,

## або АДКУЛЬ У НАС УЛАДЫКА МАКСІМ

Заўважана (і не толькі мною), што дзеячы праваслаўя не любяць слова "хрысціянства" і ўсяляк яго пазбягаюць. Увогуле, яны шмат чаго не любяць: канкурэнтаў-каталікоў, усходнія рэлігіі, якія змешваюць у кучу, лекараў, экстрасенсаў, гадалак, НЛА... Праўда, адна газетная публікацыя ледзьве не пераканала мяне ў існаванні дасюль неапазнаных аб'ектаў. Толькі НЛА мог высадзіць на нашу зямлю ў ваколіцах Магілёва бацюшку Максіма. Яго схапілі прама перад храмам Васіля Блажэннага прыкладна ў сярэдзіне 19-га стагоддзя. Інакш чаму ён так слаба арыентуецца ў часе і прасторы? Ён прызнае існаванне толькі слаўнай расійскай гісторыі, называе імёны Неўскага, Суворава, Кутузава (а палкаводцы пры чым? Ужо б Серафіма Сароўскага згадаў). Ён апелюе даўно спісанымі ў архіў лозунгамі, напрыклад, "За веру, царя и отечество!", глыбакадумна разважае пра "неразделенную" Расійскую імперыю, якая і ёсць, аказваецца, "наша страна".

Акрамя таго, уладыка Максім вельмі стрымана ўспрымае ідэю магчымага пераходу ў богаслужэнні на беларускую мову. Евангелле перакладаць таксама, на яго думку, няма патрэбы. На мову алеутаў (у газеце чамусьці яны названы "алиутами"), праўда, пераклалі і сказаць арыгінальна: "Рыбу давай нам, госпадзі, на кожны дзень..." Чаму ж нам уладыка Максім адмаўляе ў праве па-свойму размаўляць з Богам? Ці мы не дараслі да "алиутов"?

Можа, хто і не дарос. Прыхаджане Магілёўскай Епархіі дык пэўна, раз б'юць чалом Алексію II і просяць павысіць уладыку "ў званні": прысвоіць яму сан мітрапаліта. Хіба ж не прыкмецілі, што іх пастар, мякка кажучы, *перавучаны* у семінарыі і ад яго перакананняў патыхае цвіллю? (Калі адкінуць версію падарожжа ў часе з дапамогай НЛА.) Ягоныя "разлагольствования" не зразумелі б і ў сучаснай Расіі, дзе *апошнім часам* імперская *душку пабалела.*

Напрыканцы паведамляем, што гутарку з архіепіскапам Магілёўскім і Мсціслаўскім надрукаваў у гонар Вялікадня штотыднёвік "7 дней", дакладней, яго бясплатны дадатак "7 ночей", а з уладыкам Максімам меў гонар гутарыць сам Ігар Гукоўскі. Той, што стаў неўзабаве галоўным рэдактарам газеты "Знамя юности". Няйначай, сілы нябесныя паспрыялі...

**ЛІМАВЕЦ**

Алесь ЖАМОЙЦІН

# "ДА БУДЗЕ ВОЛЯ ТВАЯ!.."

## ФІЛАСОФСКА-ПУБЛІЦЫСТЫЧНАЕ ЭСЭ

*Да пашлі ж ты, Божа, Праўду сваю тую*
*З неба на зямельку, слязмі залітую!*
*Пасылаў Ты Сына, Яго не пазналі,*
*Мучылі за праўду, сілай пакаралі;*
*Пашлі ж цяпер Духа...*

**Ф.БАГУШЭВІЧ**

...Піфагор вучыў, што мы творым свой лёс, выкарыстоўваючы ў дзеянні сваю волю. І прынцып: мая хата з краю, а ўсе астатнія — хай хоць пагаловяцца — накіраваны супраць закона касмічнай эвалюцыі. Гэты прынцып увагналі нам у свядомасць уладары на зямлі. Справа ў тым, што, праяўляючы сваю долю і працуючы на карысць людзей, нацыі, дзяржавы, чалавецтва, мы працуем на карысць эвалюцыі; працуючы толькі для сваёй карысці, — сілкуем толькі свой эгаізм і творым інвалюцыю.

У кожным чалавеку на зямлі закладзена, як, прыкладам, у камп'ютэры, сем праграм патэнцыяльнай рэалізацыі па прынцыпе ўзыходзячай лесвіцы з сямю прыступкамі. Складанасць гэтых праграм вызначаецца таксама па ўзыходзячай — ад прасцейшых рухаў і ведаў да ўсемагутнасці і спазнання таямніц Сусвету. Уключэнне адбываецца пры дасягненні адпаведнага ўзроўню духоўнага развіцця асобы і стану энергаправоднасці нерваў у целе. І над усім і ва ўсім Бог — як гарант рэалізацыі кожнай асобы, народа, нацыі, дзяржавы, Зямлі,Сусвету. Менавіта гэта з'яўляецца часткай ісціны, якая складае тайну сямі зорак, апісаных у Новым Запавеце. І калі ты скончыў сваё жыццё на Зямлі на ўзроўні трэцяй праграмы — жывёльны стан развіцця, — то пры наступным нараджэнні прыйдзеш на свет менавіта на такім жа ўзроўні; і ад тваёй свабоднай волі будзе залежаць, ці ўдасканалішся духоўна і ўзнішся на прыступку вышэй, ці застанешся зноў-такі на той самай да смерці ў целе і г. д. на вечным Коле нараджэння і смерці, пакуль не ўзыдзеш на сёмую прыступку духоўнай лесвіцы і не ўвасобіш у сабе падобнасць Богу. І тады гэта яшчэ не будзе тваім заканчэннем шляху на Зямлі, бо мэта адной асобы — гэта частка вялікай задачы — узняць на *духоўнай лесвіцы ўсё чалавецтва*, з'яднаць яго ў энергетычнай еднасці Сусвету і пераадолець канчаткова супраціўленне матэрыі. У адрозненне ад мінулых тысячагоддзяў, эвалюцыя ў наш час адбываецца ў вельмі сціслыя тэрміны, таму шмат чаго дзіўнага сёння нам давядзецца ўспрыняць заўтра як звычайнае і зразумелае. Вышэйсказанае не *азначае, што ўсе людзі — робаты і ўключаюцца* Богам па аднолькавай схеме... Зусім не! Кожны чалавек — гэта непаўторнае стварэнне і ў целе, і ў Духу, развіццё яго афарбавана глыбокай індывідуальнасцю; шлях узыходжання поўнасцю залежыць ад праяўлення свабоднай волі. Толькі энергетычны рэжым на духоўнай лесвіцы ўзрастае па прынцыпе здольнасці нерваў вытрымліваць максімальную напругу прасторавай энергіі, якая выпраменьваецца з невымоўнага Цэнтра ва ўсе бакі Сусвету і якую мы называем — "БОГ". У Сусвеце дзейнічае прынцып шкалы частот — ад нізкіх матэрыяльных — да высокіх, духоўных. Але для большай нагляднасці мы складзем шкалу вытрымкі нервамі напругі току. Напомнім, што ёсць сем патэнцыяльных праграм рэалізацыі. Шкала адпаведнасці праграм і максімальнай адпаведнай напругі нерваў будзе выглядаць прыблізна так: 1 праграма — 1,5 в; 2 пр. — 5 в; 3 пр. — 9 в; 4 пр. — 12 в; 5 пр. — 120 в; 6 пр. — 220 в; 7 пр. — 380 в. Чалавек не толькі праводзіць прасторавую энергію па нервах, але здольны трансфармаваць яе і выпраменьваць, згодна закону фізікі, што электрычнае поле мае тэндэнцыю электрызаваць аб'екты паблізу яго. Чым больш высокадухоўны чалавек, тым большае і значнае высокаэнергетычнае выпраменьванне і ўздзеянне. У гэтым заключаецца прычына сацыяльных паводзін людзей, прычына сімпатый і антыпатый.

Мы не задумваемся, чаму заўсёды ў гісторыі людзі і паважалі і баяліся пракокаў?.. Пракокі знаходзяцца на шостай прыступцы духоўнай лесвіцы. Уявіце сабе, што на людзей, якія прывыклі праводзіць праз свае нервы не вышэй 12 в, аказваецца пастаяннае энергетычнае ўздзеянне напругаю 220 в. У такім электрамагнітным полі нізкадухоўныя людзі пачуваюцца даволі дыскамфортна. Тыя з іх, хто быў у непасрэдным кантакце, ужо не могуць працаваць у звыклым рэжыме сваіх праграм, яны абуджаюцца, і, выкарыстоўваючы сваю свабодную волю ў дзеянні, узыходзяць па духоўнай лесвіцы вышэй. Але "ўладары", "Кесары", не зацікаўлены ў духоўным узыходжанні людзей, бо духоўнымі трэба і кіраваць духоўна, а большасць уладароў часцей за ўсё прадстаўляюць "нізкую пробу"; яны ўсімі сіламі і сродкамі імкнуцца знішчыць прарока фізічна, каб ліквідаваць пагрозу разбурэння зладжанай сістэмы гвалту і прымусу над кожным і над усімі. Уладары памылкова мяркуюць, што калі чалавека знішчожыць фізічна, то знікнуць і яго ідэі. Але закон дзейнічае наадварот: прымусовая, гвалтоўная смерць толькі памнажае моц і жыццяздольнасць ідэй носьбіта. Самым яскравым прыкладам для ілюстрацыі гэтага закона з'яўляецца Ісус Хрыстос — Сын Бога, які кінуў выклік уладзе кесара на зямлі. Энергетычнае ўздзеянне такіх высокадухоўных асоб, хоць яны і прымусова сыходзяць з матэрыяльнага плана, закладваецца ў падсвядомасці людзей і затым праяўляе сябе на працягу вялікага прамежку часу. Калі гэта ўздзеянне слабне, на Зямлі зноў у розных кутках з'яўляюцца высокадухоўныя асобы і прыносяць сябе ў ахвяру на крыжы матэрыі дзеля абуджэння чалавецтва; і гэты працэс няўхільны да той пары, пакуль чалавецтва не ўздымецца да сёмай прыступкі духоўнай лесвіцы. Акрамя ўздзеяння на ўзроўні падсвядомасці, ад вялікіх Настаўнікаў застаюцца духоўныя вучэнні ў кнігах, якія можна зразумець толькі згодна з законам адпаведнасці — гатова твая свядомасць успрыняць ісціну — успрымеш; калі не гатова — усё



прачытанае застанецца містычным туманам. Возьмем для прыкладу вучэнне Ісуса Хрыста і хрысціянскую царкву. Царква, якая амаль заўсёды выступала ў хаўрусе з уладамі на Зямлі, ператварыла святыні і храмы не ў асяродкі спасціжэння духоўных ісцін, а ў "ВПШ" для вывучэння жыццёвага зямнога шляху Ісуса Хрыста...

Чаму ж такая боязь дапамагчы народу спасцігнуць духоўныя ісціны?.. Бог — гэта *плынь бясконцага святла*, якое выпраменьваецца з невымоўнага Цэнтра ў выглядзе пульсуючых высокачастотных вібрацый. Усе дзеянні, усе праяўленні свабоднай волі, згодна з гэтай плынню, маюць назву "дабро"; усё, што накіравана супраць духоўнага святла, носіць найменне "зло", "цемра". Узвысіць чалавека духоўна — значыць, адчыніць яму доступ да *сапраўдных Ведаў, падключыць да высокаду*хоўных вібрацый і рытмаў, бо асноўная прычына зла на Зямлі ідзе ад невуцтва. Уважліва прыглядзімся да гісторыі дзяржаў і народаў. Ці была на Зямлі дзяржава, у нашым абсягу памяці, якая прызнавала галоўнымі для чалавека дысцыпліны Прыгажосці, Любові і Ведаў?.. І не толькі прызнавала, але і рэалізоўвала іх на практыцы для ўсіх сацыяльных слаёў? З ростам насельніцтва на Зямлі патрабавалася толькі адна галоўная дысцыпліна — прымус!.. Хаця асноўны прынцып будовы Сусвету — гэта прынцып свабоднай волі!!! Хто атаясамляецца з Прыгажосцю, той не можа тварыць паскудствы, у тым ліку і ў маральным плане. Чалавек, прырода якога — прыгажосць, не можа не быць добрым чалавекам, калі ён атаясаміўся з гэтай Прыгажосцю. Адмаўленне Любові — гэта нянавісць. Хто атаясамляецца з Любоўю, вычэрпвае здольнасць ненавідзець, і, значыць, болей не можа ісці шляхамі нянавісці.

Для большасці ж уладароў на Зямлі выгадна было, і застаецца яшчэ і сёння, каб падуладныя народы ўяўлялі сабою паслухмяную, неадукаваную масу на ўзроўні 3-й, жывёльнай праграмы развіцця. Для гэтага трэба запалохаць усіх разам і кожнага паасобку, давёўшы ўзровень жыцця да галечы; сканцэнтраваць у руках нямногіх матэрыяльныя сродкі для існавання. Ізаляваць, купіць або знішчыць прадстаўнікоў духоўнага ўзроўню: паэтаў, кампазітараў, мастакоў, вучоных і г. д., якія заўсёды з'яўляюцца нявыгаднай для параўнання супрацьлегласцю духоўнаму ўбоству "ўладароў" і "ўладарыкаў". У дзяржавы, з яе сённяшнімі законамі і будовай — антыэвалюцыйная сутнасць, антыбоская; дзяржава толькі прыкрываецца *высокімі ідэаламі дабра, але не рэалі*зоўвае іх на практыцы так, як належыць. Мы жывём у эпоху найбольшай прывязанасці чалавецтва да матэрыі на фоне ўзрастаючага духоўнага абуджэння. Давайце разгледзім нашыя з вамі патэнцыяльныя магчымасці ўдасканалення па схеме: Бог — чалавек — сям'я — нацыя — дзяржава — чалавецтва. У духоўных вучэннях сказана, што БОГ — над намі і ва ўсім. У нас саміх столькі боскасці, колькі свядомасці пэўнага ўзроўню развіцця. І заўсёды ёсць магчымасць "колькасць" гэтай боскасці памножыць, спасцігаючы законы Прыгажосці, Любові і Ведаў. Акружаючая нас рэчаіснасць — гэта праекцыя нашага ўнутранага свету, свету нашай душы, нашага "я". Прыгажосць, Любоў, Веды гэтага ўнутранага свету выпраменьваюцца на людзей і здольны дапамагаць ім станавіцца лепшымі. І нам проста неабходна перш за ўсё акрэсліць і ўзважыць сваю ўнутраную сутнасць па шкале духоўнасці і вырашыць назаўсёды: або тварыць дабро і ўзыходзіць, або смеццем замінаць на шляху эвалюцыі чалавецтва.

Асноўная сіла на шляху ўдасканалення — гэта свабодная воля. У залежнасці ад нашых памкненняў і сутнасці воля дзейнічае як добрая і як злая. Але перш за ўсё трэба яе адчуць у сабе як нейтральную сілу, а гэта няпроста. Усе намаганні дзяржавы з яе шматвекавой практыкай накіраваны менавіта на падаўленне свабоднай волі. І, як гэта ні парадаксальна, царква таксама дапамагае гэтаму, прывіваючы вернікам страх перад Богам, а не вучачы шукаць у сабе боскасць, паважаць яе ў сабе і ў акружаючых. Бо чалавек настолькі можа зразумець і прыняць Бога, наколькі ён сам ім з'яўляецца. Усё астатняе будзе проста ідалапакланеннем. Дапусцім, у нейкі момант мы адчулі сваю свабодную волю. Наступным крокам удасканалення будзе праявіць яе, праверыць на вытрымку і дзеянне. Гукараздзельнае маўленне і сцвярджальны ці адмоўны жэст — гэта першае праяўленне волі. І вось тут для беларуса дзяржава і царква выступаюць як антыбоскія сутнасці. Аказваецца, па дзяржаўных і царкоўных няпісаных законах беларус ад нараджэння пакрыўджаны Богам, яго мова недасканалая, вусная народная традыцыя не адпавядае сучаснасці і застаецца — для выражэння сваёй волі трэба карыстацца чужой мовай. Ну, а паколькі маўленне — гэта акт выражэння свабоднай волі, то, выходзіць, і волю трэба прымаць... чужую. Вось тут і пачатак, і прычына нашай нацыянальнай хваробы — бязбацькаўшчыны, нашай аморфнасці, "памяркоўнасці"; таму што псіхічны надлом асобы і блакада натуральных паводзін пачынаецца з маленства. Да васемнаццаці гадоў гэта пераходзіць у комплекс няпоўнавартасці, які выклікае пры напаміне пра такое духоўнае калецтва або рэзкую агрэсіўнасць, або поўную рахманасць і абыякавасць. Вярнуць такога чалавека да натуральнага волевыяўлення можна толькі глыбокім стрэсам на фоне дадатных ці адмоўных пачуццяў.

Вялікі Францішак Скарына заклікаў нас браць прыклад з пчолаў: "...пчолы бароняць вуллі свае..." Так, нацыя — гэта вялікая сям'я, і ад упарадкаванасці ў нашай хаце — у вялікім нашым вуллі — залежыць жыццяздольнасць нас усіх. Пчала без свайго рою можа пражыць не больш дзвюх гадзін і гіне. Мы ж, беларусы, запусціўшы свой вулей, не маючы "маткі", напладзіўшы трутняў сваіх, і, панапускаўшы чужых, на працягу двух стагоддзяў яшчэ не згінулі?! Ну, — гэта вялікае дзіва! Гэтак умеюць, мусіць, толькі беларусы...

То раз мы такія трывалыя і перажылі два стагоддзі невыносных пакут і прыніжэння, то *для нечага вартага захаваў нас Бог на Зямлі*. Значыць, на нас ускладзена вельмі важная місія — раз мы такія жывучыя і загартаваныя, ды жывём, да таго ж, у самым цэнтры Еўропы. Усяго мы пакаштавалі даволі: і мяча, і бізуна; і, можа, настаў ужо час пакаштаваць хлеба духоўнага, якога мы ў сваім вуллі за шматвяковую гісторыю назбіралі дастаткова, але жывіліся ім толькі нямногія з нас, самыя смелыя і адважныя, якія не баяліся забароны і клікалі нас за сабою; але мы баяліся трутняў, баяліся саміх сябе — іншых, лепшых; і часам па загадзе трутняў бэсцілі ці выганялі нашых смельчакоў; смельчакі, праўда, знаходзіліся новыя.., а мы маўчалі і баяліся, бо мы — гэта не мы, а нехта чужы ў нас... Надышоў час, калі ўжо нельга адкрыта выкарыстоўваць прымус, — свет змяніўся; "уладары і ўладарыкі" пачынаюць гульню ў "свабодныя" выбары новай улады, наперад ведаючы, што мы — баязліўцы і памяркоўныя паслухмянцы, прагаласуем за таго, каго яны нам падсунуць як самага лепшага кандыдата; напалохаюць яшчэ, што калі яго не выберам, то верх возьме нацыяналіст, які ўсіх нас назаўтра кончыць... Прыйшоў час прыгледзецца да людзей нашых духоўна вышэйшых, да тых, каго ненавідзяць і бэсцяць трутні ў нашым вуллі за шчырае сэрца, за любоў да зямлі роднай, за высокі розум; да тых, хто зможа пераўладкаваць нашу дзяржаву, каб была яна ад Бога і за Бога, сапраўды, а не на словах; каб зажылі мы, нарэшце, з вамі па-чалавечы, а не як скаціна, якую гоняць бізуном то на Усход, то на Захад; а зямля наша тут, на месцы, і нам самім яе парадкаваць. У кабіну для галасавання "дабрадзеі" з вамі не зойдуць, хоць і абступяць яе шчыльна, і ўсміхацца наперад будуць ветліва, але ў кабіне мы застанёмся сам-насам са сваёй воляй, хоць і нязначнай паасобку, але магутнай, калі дружна і разам. Успомнім мы тых людзей, якія не кілбасамі заваліць абяцаюцца, а гаспадарамі зрабіць нас на зямлі нашай; каб слова роднае вымавіў — і неназдзекаваліся; каб жыта пасеяў — і не баяўся, што чужынец вытапча; каб хлопца выгадаваў — і не загінуў ён, за азіяцкія "інтарэсы" ваюючы; каб Богу памаліцца, не трэба было перакладчыка!

Вось тады мы зможам даць магчымасць духоўна ўзысці не адзінкам, а большасці; вось тады мы вымавім дружна і магутна на ўвесь свет імя роднае і светлае — БЕЛАРУСЬ!..

Проза

***Цяжкі час, нялёгка на душы, але тым не менш напісаў вось першую кнігу рамана "Кліч роднага звона". Пра далёкія 1245—1246 гады, пра цяжкі і радасны заадно для нашага Навагародка перыяд, калі ён Навагародак...***

***Прашу "ЛіМ" дазволіць падзякаваць Міколу Ермаловічу, Уладзіміру Арлову і Міхасю Чарняўскаму за кансультацыі і літаратуру, а чытача пазнаёміць з фрагментамі майго новага твора.***

***Аўтар***

# КЛІЧ РОДНАГА ЗВОНА

Генрых ДАЛІДОВІЧ



Пабудзілі Усяслава рана, той часінай, калі яшчэ цягнулася доўгая асенняя ноч і зусім паволі набірала моц раніца, калі, бывае, яшчэ сама соладка спіш, а гэта значыць і добра адпачываеш. Любкі побач ужо не было, яна, мабыць, прахапіўшыся ноччу, ціхенька вышмыгнула, каб пакарміць дзіця, а потым засталася на сваёй палове. Яму ж, Усяславу, як ні хацелася падымацца, трэба было ісці ў княжацкі хорам: "Князь кліча". Дык мігам падхапіўся, хуценька апрануўся і борздка пашыбаваў туды, асвяжаючыся ад начной стыні, калючага ветру і вадзяніста-снежнай хлюпаты — зямля была мяккая, ні разу яшчэ глыбока не прамярзалася, не пакрывалася трывалым лёдам, а вось снег падаў ужо. Мусіць, ненадоўга: той Зюзя, што наганяе зіму, толькі яшчэ раз-другі дыхнуў-дзьмухнуў сюды сцюжаю, страсянуў над гэтым краем рукавом, з якога паляцелі белыя матылі, перасцерагаючы, што ён, хоць не затрымліваецца тут, усё ж хутка сюды вернецца і заўладарыць ледзь не на паўгода.

У княжацкім хораме скупа мігцелі свечкі, уся чэлядзь была на нагах, але было вельмі ціха, і па тым, як усе не толькі пашанотна, але і з трывогай, нават са страхам пазіралі на яго, давалі дарогу, ён зразумеў усё непазбежнае, але жалобнае і пагрознае...

У княжацкай спальні было толькі трое: высокі і худы біскуп Кірыла ў чорнай апратцы, пажылыя, абодва мажныя лекар і пакаёвы.

— Княжа, Усяслаў прыйшоў, — нагнуўся над хворым пакаёвы, а потым адступіў, даў яму месца.

Князь Ізяслаў — а ён ляжаў на спіне заплюшчыўшы глыбока запалыя вочы, пад якімі былі цёмна-рудыя кругі, быў высахлы, жаўтлявы, а рэшткі валасоў, вусы і барада зусім збялелі — не варухаўся, толькі маруднa і вельмі цяжка прыўзняў павекі, зірнуў ужо не выцвілымі, а бясколернымі вачыма, з вялікім намаганнем варухнуў вуснамі і языком:

— Пакідаю вас, Усяславе...

Усяслаў душой адчуў: князь хоча, каб ён сеў побач, каб можна было цішэй гаварыць, але ўсё яму было чуваць.

Апусціўся на край ложка, запытаў з болем і спачуваннем:

— Вельмі ўсё баліць, князь?

— Не, — той варушыў толькі вуснамі. — Мне цяпер лёгка, не чую ніякага болю, але... Смерць мая ўжо тут, каля мяне... Я яе бачыў ужо...

— Прымроілася табе гэта, князь.

— Не. І яе не баюся, няхай ужо забірае да маіх бацькоў і дзядоў. Час...

— Яшчэ не час, князь.

— Час, слаўны ваявода і мілы мне чалавек. Нялёгка табе будзе без мяне, але толькі табе ўручаю лёс нашага Вялікага княства Навагародскага. Ужо з сённяшняга дня гэты цяжар, што мы валаклі разам, ляжа найперш на твае плечы.

Усяслаў узяў лёгкую, худую і халодную князеву руку і, пацалаваўшы яе, паўтарыў сваю ранейшую клятву:

— Што ні будзе пагражаць мне, князь, але я ніколі і ні перад нікім не адступлюся ад таго, што ты наказваеш нам...

— Ведаю, таму і паміраць мне не страшна. Такой бяды, што мяне хутка забудуць.

— Не забудуць, княжа.

— Забудуць. Помняць доўга таго, хто пачаў, выйграў ці праіграў вайну, праліў мора чалавечай крыві. Хто не толькі адбіваўся ад ворагаў, але і нападаў на суседзяў, дадаваў да сваіх зямель чужыя. Такія ціхія, памяркоўныя, як я, у людской памяці доўга не застаюцца.

— Не гавары так пра сябе, князь, — папрасіў Усяслаў. — Ты развагай, мірам, дбайнай гаспадарлівасцю ды мудрай палітыкай з дружнымі і хіжымі суседзямі зрабіў тое, чаго не ўдалося б дабіцца мячом. Ты спрытна спажыў зацішны шанц, што выпаў нам адзін раз за стагоддзі.

— Я не пра сябе думаю, Усяслаў. Пра іншую памяць...

Ён аж здзівіўся і ад цяперашняй свядомасці і розуму князя Ізяслава.

— Спажыць шанц — яшчэ не ўсё. Гэты шанц яшчэ трэба спраўдзіць, адстояць. І ўжо, непазбежна, мячом. Хутка, можа, нават і вельмі хутка пасля маёй смерці наш зацішак, мір сярод войнаў, што палыхаюць вакол, закончыцца і сюды таксама прыйдзе вайна. Каб забіць наш шанц...

— Што ж, прыйдуць на нас з мячом — возьмем у рукі мячы і мы.

— Дык вось калі будзе памяць пра слаўнае былое і прага лепшага новага, то ворагу будзе нялёгка скарыць вас. Устоіце, будзеце гаспадарамі на нашай зямлі, дзяржаваю сярод дзяржаў — усцешыце нас там, на тым свеце. Мы не будзем плакаць, адракацца ад нашчадкаў, што не занядбалі нас, наш запавет, сябе, будзем спрыяць адтуль. Калі ж, не дай Бог, нашчадкі змаладушнічаюць, забудуць нас, зганьбуюць сябе, то іхні род пачне выміраць... І заўладараць чужыя. І завядуць свой лад, дзе ўсё будзе няправеднае, хіжае, нявечнае, абы ўхапіць сваё ды дзень гэты пражыць... Толькі той край благаслаўленны ў Бога, дзе шануюцца продкі і іхняе далей доўжаць нашчадкі. Калі ж гэтая повязь абарваная, дык нашчадкі няшчасцяць свой край, сябе, сваіх дзяцей і ўнукаў, а ўрэшце выраджаюцца і на гэтай зямлі прарастае наноснае семя... А там не толькі калоссе, але і пустазелле... Не табе, Усяслаў, гэта гавару. Баярам нашым, дружынам, чэлядзі, смердам — усяму нашаму люду. А ты скажаш гэтыя мае словы на Радзе і на вечы...

— Скажу, светлы княжа. Усё, што і як ты наказваеш.

— Абапірайся на сілу, на дружыны. Яны памогуць.

— Добра, княжа.

— Я ж... — князь пачаў задыхацца. — Смерць... Хадзем... Хавайце не ў даспехах... Я не баявы, мірны князь... Я не ліў кроў.

Князь Ізяслаў і яшчэ штосьці гаварыў ці, лепш сказаць, спрабаваў вымавіць, але ягонага голасу не было чутно, угадвалася толькі мармытанне, а за ім пайшлі хрыпы. Нечакана ён напружыўся, аж уздрыгнула яго рука ва Усяслававай далоні, шырэй, але неяк зусім не па-зямному адплюшчыў вочы, абвёў імі сваю спальню, а пасля запыніў позірк на куце, дзе вісеў вялікі абраз. Уставіўся, нібы анямеў, а потым увесь торгнуўся, нібы апошні раз выдыхнуў усё цяжкое з сябе і з палёгкай адкінуў убок галаву...

Усе яны перавялі вочы на старога лекара — той узяў ад Усяслава князеву руку, прыклаў вялікі палец да запясця, паслухаў, а затым вымавіў са скрухаю:

— Преставился наш князь.

— Добры быў чалавек, дык лёгкая смерць, — перажагнаўся верны княжацкі лёкай.

Услед за ім перажагналіся і астатнія. Ніхто з іх, мужчын, не закрычаў, не заплакаў наўзрыд, толькі па-мужчынску ўсе зацяліся. Усяслаў ведаў, што князь памрэ калі не сёння, дык заўтра, добра ўсвядомліваў, што гэта не проста смерць князя і чалавека, але агромністае выпрабаванне для Навагародка і ўсяго Вялікага княства Навагародскага і не толькі на сёння ці заўтра, але, можа, і на стагоддзі, але цяпер, убачыўшы, што гэта адбылося, адчуў, што нібы ад яго адвалілася сцяна ці нейкая агромністая падпора, што ён нібы адзін з тым, што паслала ім воля неба і зямлі і што цяпер ужо ўвасабляецца ў в ы п р а б а в а н н е!.. Яно пачалося! Хутка набярэ разгон, і адзін Творца і Усявышні ведае, ці будзе ў гэтым выпрабаванні выйсце ці яно завядзе ў тупік!.. Вось такое жыццё: учора жыў і рабіў тое, што трэба, спакойна, радаваўся, зноў пазнаваў таемства і ўцехі кахання, а то, мабыць, даў пачатак яшчэ аднаму новаму жыццю, а сёння...

— Падымайся на ногі, сын мой, — паклаў яму руку на плячук біскуп Кірыла ды прамовіў шматзначна. — Спаўняй ужо князеву волю, загадвай, каму што і як рабіць...

Ужо на світанні, калі ажыў Навагародак, бадай, усе ведалі сённяшнюю жалобную навіну.

Смерць нават простага смерда, лёкая, дружынніка, не кажучы ўжо пра знатнага воя альбо баярына — гэта свежая, уражлівая падзея, што змушае неяк інакай, разважлівей і глыбей падумаць пра нябожчыка, пра жыццё, пра сябе, пазбавіцца ад усякай нечысці, паспачуваць, памагчы іншаму, згуртавацца ў бядзе і горы, каб пасля гэтага камусьці, праўда, толькі нямногім, жыць болей праведней, а камусьці лепш сказаць, усім астатнім, існаваць па-свойму далей, да іншай нечыяй ці сваёй смерці. Жыццё, што не намі заведзена, мае свае законы, і не нам пры ўсіх нашых намаганнях, а на самай справе, можа, толькі маленечкіх спробах у ім разабрацца ды яго змяніць...

Але тут — смерць князя! Старога! Апошняга са свайго роду! Ні дзядзька, ні сын альбо сынавец — ніхто са сваіх, аднакрэўных, яго не заменіць! Значыць, тут ранапозна сядзе чужы князь, які, канечне ж, завядзе свой лад, а потым і свой род! Хто ж будзе гэты новы князь? Якія яго характар, звычкі? Ці ён будзе паводзіцца і са знатнымі, і з простымі? З суседзямі? Чаго чакаць далей? Міру? Звадаў і вайны? Такія думкі затурбавалі, выбілі са спакою і баяраў, і чэлядзь, што злучылі свае спогляды на Усяславе, ведаючы і прадчуваючы, што цяпер ён тут галава. Ды Усяслаў нібы знік з Навагародка.

Радцы, пачуўшы жалобную вестку, наведалі ўжо абмытага і ўбранага ў велічнасвяточна-тужлівую княжацкую апратку нябожчыка, а пасля разам сабраліся ў радніцы, паселі на сваіх месцах і пачалі паціху перамаўляцца. Толькі адзін таўсцюк Расціслаў — у цёплых ботах, у расхінутым сабаліным футры, з узлахмачанай шапкай у руцэ — нервова выкрочваў туды-сюды па пакоі, а потым запыніўся і незадаволена запытаў ва ўсіх:

— Раніца, трэба нешта рабіць, а дзе Усяслаў? Дзе малодшы ваявода Бялян? Дзе Усяславаў зяць, Васілёк?

— Не спяць жа... — нібы сказаў тое, што ёсць, а на самай справе падбухторыў Расціслава стары Звеніслаў. — Дзеюць...

— Што?

— Тое, што ім трэба...

— І біскупа Кірылы няма! — не супыняўся і не супакойваўся Расціслаў. — Абодва, Усяслаў і Кірыла, не спяшаюцца аб'явіць нам ранейшы і сённяшні наказ князя Ізяслава.

Канечне, усе хацелі ведаць: ш т о ў грамаце князя Ізяслава, якую ён перадаў біскупу Кірылу. Але Расціслаў хацеў ведаць пра ўсё найбольш. І, канечне ж, не толькі таму, што быў навагародскі дворскі.

— Усяслаў, можа, ужо спаўняе князеву волю... — зноў ні за, ні супраць Усяслававаяводы сказаў Звеніслаў, але ў агонь Расціслававага гневу падкінуў паленца.

— Як гэта спаўняе? Адзін? Без рады з намі? — выпаліў Расціслаў, запыніўся, абстраляў усіх незадаволеным позіркам. — Дык хто мы? Радцы ці не? Давайце вось раіцца, з чаго і як нам пачынаць пахаванне?

— Без Усяслава? — хітра ўхмыльнуўся, зноў цісночы Расціславу на болькі мазоль Звеніслаў. Добра ведаў характар, намеры Расціслава і ягонай Раксаны. Часта піў, шушукаўся з тымі, ставіў петлі для Усяслава, нацкоўваў на таго князя, хоць, трэба сказаць, не шмат яны дабіліся: князь верыў свайму ваяводу і нават любіў яго, як малодшага брата. — Ты не баішся, што верныя Усяславу воі палічаць нас за крамольнікаў? Ды ў такі час, калі нам усім трэба быць заадно!

— Не разумею! — ускіпеў Расціслаў. — Ці ты, канцлер, пакепліваеш з мяне, ці асцерагаешся сам ступіць лішні крок?

— Я думаю, — ухіліста адказаў той.

— Цяпер мала думаць, цяпер трэба штосьці і штосьці рабіць! І не штосьці, а т о е, што т р э б а!

— Прыйдуць біскуп Кірыла і Усяслаў — дык, канечне ж, адразу скажуць нам князеў наказ, а тады ўжо разам параімся п р а ў с ё. Найперш пра тое, каму ў нас сесці на пасад... — пры ўсіх намекам на намёк адказаў захавальнік навагародскай пячаткі.

— Што тут надта мудрагеліць? — не мог саўладаць з тым, што яго турбавала, Расціслаў. — Трэба спешна слаць ганца ў Холм, да князя Данілы. Няхай ці сам зробіць ласку прыехаць у Навагародак, ці прышле свайго дворскага Андрэя. Вось з імі нам трэба як след параіцца... — А пасля, спахапіўшыся, не дагаварыў запаветнага, толькі дадаў: — П р а ў с ё...

Усе добра зразумелі ягоны празрысты намёк, усё, пра што ён затаіўся: Расціслава не проста захвалявала тое, хто і калі сядзе ў Навагародку на княжацкі пасад. Яму не цярпелася, ажно гарэла, каб яму і яго сям'і жылося лепей пры новым князі, чым пры старым. Праўда, ён нікому, нават каму верыў, не прызнаўся, што ён своечасова пачуў ад Усяслававага дружынніка, Любаміра, пра ранні выклік Усяслава ў княжацкі хорам, пра князеву смерць. Як і не прызнаўся, што ўпотай паслаў ужо ганца ў Холм, каб там ведалі пра ўсё і каб не спалі ў шапку, а панамагаліся яшчэ не выпусціць Навагародка з-пад сваёй волі, каб ён, Усяслаў, быў тут у моцы і ў дастатку. Тады, калі выйдзе ўсё так, як хоча князь Даніла Галіцкі, як жадае ён, прыйдзе яго час і ён будзе зусім інакай гаварыць, паводзіцца з усімі, а то і прыбярэ некаторых з дарогі. І, канечне ж, найпершы ўдар будзе па Усяславу... Абы толькі Холм не правароніў, мігам умяшаўся ў навагародскія мітрэнгі, павёў усё далей па-свойму, як было да таго, пакуль не аслабілі, а то і спустошылі Галіцка-Валынскую зямлю манголы і міжволі не набралі тут моц, сілу князь Ізяслаў з Усяславам... Канечне, ні князь Даніла, як ні журбоціцца па жонцы-нябожчыцы, ні дворскі Андрэй, якога тут называюць "холмскім сваячком", маючы на ўвазе, што той Раксаніна радня, не павінны ўпусціць тут тое, што мелі раней...

Расціслаў верыў, што цяпер ажыве яго мара, узыдзе і будзе яркай ягоная зорка, але глыбока ў душы і трывожыўся, што з таго часу, калі князь Даніла змушаў Навагародак слухацца, спаўняць яго волю, сплыло ўжо нямала вады, што ўжо ёсць, дужэе, пра што непакояцца ў Холме, Вялікае княства Навагародскае і што ўрэшце ёсць тайная грамата князя Ізяслава. Усяслаў — не з тых, хто разгубіцца ў цяжкую хвіліну альбо кагосьці збаіцца. Наадварот, пры напасцях Усяслаў надзіва разважлівы і мужны, мае добрае знаёмства, падмогу на Літве — і не толькі ў Міндоўгавай, — здаецца, паразумеўся і з непрымірымым сапернікам раней Кіева, а цяпер Холма, Полацакам. Навагародскія дружыны за Усяслава гарой. Ён — іхні любімец і пястун, бацька альбо старэйшы брат. А іхнія дружыны — сіла, з ёй лічацца ўсе суседнія землі, князь Даніла таксама. Летась, калі той адбіваў наступ раці караля Бэлы і сынаўца Расціслава, проста мусіў праглынуць як бобку перцу тое, што на гэты раз Усяслаў не кінуўся яму на падмогу з палкамі, а прывёў маладую дружыну пад канец бою не столькі памагчы, колькі даць дзецюкам прагуляцца, пабыць у баявым паходзе... Ясна, што і цяпер Усяслаў з дружынамі, найперш ім расказвае пра княжацкі наказ, падмацоўвае сабе падпірышча. А без яго біскуп Кірыла наўмысна сюды не ідзе. Таму хоць і не заміналі князь Даніла, мітрапаліт Кірыла стаць тут біскупам, хоць канстанцінопальскі патрыярх яшчэ не пацвердзіў гэтага біскупства, але ён памагаў князю Ізяславу і ваяводзе Усяславу весці навагародскую палітыку. Пакуль што няма тут сілы супрацьстаяць ім. Нават яго, Расціславаў, зяць-соцкі, калі быў жывы і марыў стаць тысяцкім, шчыра служыў не яму, а Усяславу.

...Усяслаў заявіўся ў горадзе, а пасля ў радніцы пад полудзень. Па тым, як быў апырсканы мокрай зямлёю на ботах і на полах плашча, было відаць: быў у дарозе, сам аб'ехаў прыстанкі бліжэйшых баявых дружын. Але і ўслед за ім біскуп Кірыла не прыйшоў.

— Трэба паслаць па біскупа, — адразу ж задзірыста сказаў Усяславу Расціслаў.

— Чаго? — нібы не зразумеў, пахмурна запытаў той. Сеў на сваім, вярхоўным, месцы, што займаў пасля таго, як злёг князь Ізяслаў, стомлена абцёр далонню высокі лоб, роўны важкі нос, густыя, трошкі ўжо сівыя вусы і бараду.

— Няхай аб'явіць нам князеў наказ, каб мы ведалі, што і як рабіць далей, — прамовіў Расціслаў. Раней, нават да нядаўняй паездкі ў Холм, дзе пабачыўся з князем Данілам, які вярнуўся з Іціля, ад Батыя, Расціслаў так смела і фанабэрыста не размаўляў са сваім сапернікам, але, адчуўшы новую падмогу ў Галіцка-Валынскай зямлі, дазваляў сабе дзёрзкасць.

(Працяг на сатр. 14-15)

ЛіМ
ЧАСАПІС

## НАПІСАНА СЭРЦАМ



**У кожнага мастака ёсць улюбёныя тэмы, за якія ён бярэцца ў часы асаблівага натхнення. У Уладзіміра Сулкоўскага гэта беларускае Палессе.**

**Яшчэ будучы студэнтам тэатральна-мастацкага інстытута Уладзімір штогод на некалькі месяцаў ехаў на Брэстчыну або Гомельшчыну, каб сабраць матэрыял для сваіх будучых работ. Вёску за вёскай абышоў ён усё Палессе, робячы замалёўкі палешукоў, іх побыту, традыцый і абрадаў.**

**Дыпломная работа Уладзіміра "На родным Палессі" стала заяўкай на творчую сталасць маладога мастака і зыходным пунктам у яго плённай працы жывапісца.**

**Паралельна з тэмай Палесся спела і другая, не менш захапляльная і цікавая. Крыніцай яе была ўлюбёнасць у паэзію Якуба Коласа. Так нарадзіўся цыкл, прысвечаны паэме "Новая зямля". На яго стварэнне пайшлі многія гады.**

**Сёння Уладзімір Сулкоўскі поўнасцю аддадзены працы над увасабленнем сукупнага вобраза Палесся. Ідзе пераасэнсаванне найбагатага матэрыялу, сабранага ў студэнцкія гады. Цяперашняе ж успрыманне лёсу краю праходзіць праз прызму чарнобыльскай катастрофы. Тут мастак знаходзіць свае сродкі для перадачы трагедыйнасці сітуацыі.**

**Пройдзе час, і мы сустрэнемся з новымі работамі Уладзіміра Сулкоўскага на чарговай выстаўцы. І, думаю, не застанёмся абыякавымі. Бо ўсё ім напісанае прайшло праз сэрца, якое жыве родным краем.**

**Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛІНФАРМ**



*На здымках: мастак Уладзімір Сулкоўскі; яго праца "Верасень".*

*Фота аўтара*

## У ГАСЦЯХ — ІЗРАІЛЬСКІ МАСТАЦТВАЗНАЎЦА

**"Еўрапейскі Гуманітарны Універсітэт мае гонар запрасіць Вас для прачытання курса лекцый..."** — *такое запрашэнне атрымала* **нядаўна Зіва Амішай-Майзельс, вядучы мастацтвазнаўца Ізраіля. У красавіку ў памяшканні Ізраільскага культурна-інфармацыйнага цэнтра ўпершыню на Беларусі быў прачытаны курс лекцый "Сучаснае яўрэйскае мастацтва ў кантэксце сусветнай культуры" ў праграме акадэмічнага курса "Уводзіны ў гісторыю мастацтваў".**

**Дырэктар Інстытута літаратуры і мастацтва Іерусалімскага універсітэта прафесар З. Амішай-Майзельс — адна з вядучых сучасных тэарэтыкаў і гісторыкаў мастацтва, аўтар фундаментальных работ пра Пікасо, Гагена, мастацтва Францыі XIX—XX стагоддзяў, даследавання па абстрактным мастацтве... Цэнтральная тэма яе навуковай творчасці — яўрэйскае мастацтва XIX—XX стагоддзяў, Упершыню яна раскрыла глыбінныя і сімвалічныя вытокі работ М. Шагала, Э. Лісіцкага і іншых выдатных мастакоў, звязаных з яўрэйскай традыцыяй. Манаграфіі З. Амішай-Майзельс апублікаваны ў ЗША і Ізраілі і перавыдадзены ў многіх краінах свету.**

**Візіт сп. Амішай-Майзельс арганізаваны пры садзеянні пасольства Ізраіля ў Мінску.**

# ДЗЕ КРЫЛЫ НАШАГА МАСТАЦТВА?

Дайце веры, але абставіны складваюцца так, што будучым даследчыкам мастацтва 90-ых гадоў не будзе што рабіць, бо некаторыя яго віды і жанры літаральна знікаюць на вачах. Дзе агітплакат Саюза мастакоў, які заўсёды меў грамадскі заказ на выкрыццё злодзеяў і хапуг? Прыгожыя, друкаваныя ў колеры культурна-асветніцкія афішы сёння таксама такія рэдкія, што ўгледзець іх можа альбо блізкі да самой падзеі чалавек, альбо яе арганізатар, а зусім не звычайны шараговы глядач на звычайнай вулічнай дошцы аб'яў. Ксераксы, відэа, аўдыа парушылі нашы ўяўленні аб традыцыйных мастацтвах. Тое ж датычыць і графічнага афармлення кніг, часопісаў — заставак, сімвалаў, "шапак". Чаму яны, абавязковыя для друку ў 20-30-я гады, зніклі з "новых рэвалюцыйных" выданняў? Агітплакат, карыкатура, афіша, графічны малюнак, як найбольш папулярныя і хуткія, заўжды характарызавалі змены грамадства, яе "перабудовы".

Пагадзіцеся, што дваццатыя гады для нашай гісторыі былі не менш складаныя ні ў палітычных, ні ў матэрыяльных, ні ў культурных адносінах. Але яны пакінулі нам цікавейшыя прыклады і знаходкі новых сімвалаў часу, каб выказаць нацыянальную незалежнасць, патрыятызм, узаемадапамогу ("Дапамажы братам Павол-жа!", "Вучыцеся грамаце!" і г. д.). Застаўкі і канцоўкі газет і часопісаў "Малады араты", "Маладняк", "Піянер Беларусі" здзіўлялі фантазіяй і складаным афармленнем. Тое ж можна сказаць пра маркі "Чырвонага крыжа". Няўжо сучасная сітуацыя ў Беларусі не дае палёту фантазіі, праяўленню пачуццяў, не змушае мастакоў, асабліва графікаў, знайсці новае адлюстраванне і сімволіку незалежнай дзяржавы? Няўжо не вырастуць у нашага мастацтва крылы, якімі ў дваццатыя гады Язэп Драздовіч абкружыў беларускую "Пагоню", хоць і стала гэта не апошнім прымусам пакінуць прафесійнае мастацтва і знікнуць у вясковых "падарожжах"...

**Людміла НАЛІВАЙКА**




*Часопісная графіка Язэпа Драздовіча.*









*Вокладкі часопісаў.*

# "ПУБЛІКА НАС ДАЎНО РАССМАКАВАЛА..."

***Рассмакавала менавіта ў Альтэрнатыўным тэатры, хоць "яны" — клуб Сяргея ФЯНЕНКІ "Постэлітарнае кіно", — гнездзіліся ў розных месцах і розных залах. Па сутнасці ягонай кінасправы колькі пытанняў прапануе яму Алена ШЫФМУНД.***

**— Сяргей, "Альтэрнатыўны тэатр" пачынаецца з вешалкі, а ваш клуб "Постэлітарнае кіно" — з чароўных адміністратараў. Скажыце, гэта вынік доўгіх пошукаў ці шчаслівая выпадковасць?**

— Мне ўвогуле падабаюцца прыгожыя жанчыны, таму, прыдумваючы клуб, я шукаў людзей вельмі сімпатычных не толькі ўнутрана, а і вонкава. На шчасце, яны апынуліся зусім побач. Так што і з Вольгай, і з Алёнкай мне пашанцавала. Пагадзіцеся, што атмасферу свята можа стварыць толькі вельмі мілы і ветлівы персанал.

**— А ваш мілы і ветлівы персанал глядзіць тыя фільмы, якія вы паказваеце?**

— Усе вытворчыя канфлікты адбываюцца ў нас выключна з-за спрэчак, каму глядзець кіно, а каму паныла чакаць заканчэння сеанса і ахоўваць спакой гледачоў.

**— А што за людзі да вас ходзяць? Ці існуе які-небудзь "узроставы цэнз", ці належаць яны да нейкай "сацыяльнай праслойкі", "касты" або "клана"?**

— У першую чаргу людзі жывыя і цікаўныя, таму што нам надта падабаецца новае аўтарскае кіно. Якраз яго паказамі мы і ганарымся. А для таго, каб хоць крыху захацець зірнуць, што ж там утварылі Пітэр Грынаўэй, Джым Джармуш, Чжан Імоў і Эмір Кустурыца, трэба быць хваравіта цікаўным чалавекам. Таму што ў нашу інфармацыйную яму весткі пра ўсходы новага кінамастацтва прасочваюцца з вялікай цяжкасцю. Зразумела, кругагляд у нашых гледачоў самы шырокі, людзі яны, несумненна, вельмі разумныя і, у пераважнай большасці, надзвычай прыемныя. За што мы іх і любім. За тое, уласна, іх рэгулярна і радуем. Узрост (ад 15 да 60) і іншыя асаблівыя прыкметы ніякага значэння не маюць.

**— Вы закранулі тэму вам, як кінакрытыку, блізкую і прыемную. Якое кіно і якіх рэжысёраў вы любіце, якімі паказамі асабліва ганарыцеся?**

— На самай справе, я ні ў якім выпадку не кінакрытык. Я — кінаўсхвалявальнік. Хоць крытыкаваць бывае вельмі прыемна. Але зачаліць якога-небудзь рэжысёра публічна ў той час, калі кінематограф пачуваецца вельмі нудна, язык неяк не паварочваецца. Затое пра любімае гаварыць заўсёды асабліва прыемна. "Запальваючы чырвоны ліхтар" Чжана Імоў, "Дзіўней, чым рай" Джыма Джармуша, "Час цыганоў" Эміра Кустурыцы, "Дурная кроў" Леа Каракса, "Еўропа" Ларса фон Трыера, "Мой уласны штат Айдаха" Гаса ван Сента, "Эдвард П" Дэрэка Джармена. Вельмі няпоўны спіс таго, чым мог бы заганарыцца кожны заходні кінатэатр. Усе гэтыя фільмы — авангард новага кінамастацтва. Кожны з іх выбітны і зусім ні на што не падобны. Многія рэжысёры, чыё кіно стала адкрыццём для нашых гледачоў, даўным-даўно ўзвялі сабе нерукатворныя помнікі на Захадзе. І мы бязмежна шчаслівыя, што пратапталі да іх новыя, раней нетаптаныя сцяжыны. Асабліва нам дарагія лістападаўскія праграмы "Новы свет Джыма Джармуша" і "Кінасвет", студзеньская "Англійскія постмадэрністы", сакавіцкая "Незалежныя кінаамерыканцы". У маі будзе "Новае французскае кіно", у чэрвені — "The best of "Посткіно", у верасні-кастрычніку — "Вялікія кінаэксперыменты". Нягледзячы на бязмежную любоў да кіно новага, мы вельмі стараемся дагадзіць усім разумным гледачам і чаргуем нябачанае новае з недагледжаным старым ("Апошняе кіно", цыкл "Кінонятленка"). Між іншым, публіка з задавальненнем ходзіць на тыя фільмы, якія "бліжэй да цела". Так што аўдыторыя ад праграмы да праграмы можа прыкметна мяняцца.

**— Я заўважыла, што перад пачаткам сеанса вы абавязкова штосьці наладжваеце: то конкурс кіназнаўцаў з розыгрышам самых неверагодных прызоў (бананы з вашымі аўтографамі, вобла з бляшанкавым півам, памідоры з зелянінай), то паказ кароткаметражных фільмаў, то канцэрт, то нейкія дзіўныя візуальныя эксперыменты...**

— Так, у гэтым і ёсць прыцягальнасць нашага клуба. Мы вельмі адрозніваемся ад звычайнага кінатэатра. Часам (і гэта для мяне вялізарная ўхвала) я чуў: "Тое, што вы прыдумваеце, бывае цікавей за тое, што паказваеце". Як выцягнуць гледачоў з іхніх нор і прымусіць паглядзець тое, што называецца новым мастацтвам? Патрэбна прынада, пастка (даруйце за звярыную тэрміналогію) у выглядзе вядомай кінастужкі. Вось і паказваем мы новае мастацтва нібы ў нагрузку да фільма.

Мы жывём у той час, калі лепшыя кадры ўжо зняты, карціны намаляваны, радкі напісаны. Любая новая ідэя, фармалістычны эксперымент, постамадэрнісцкі "сцёб" для мяне — на вагу золата. Таму і іграў у нас вядомы віяланчэліст Алег Алоўнікаў пад абстракцыяністскія фільмы Оскара Вышынгера, а "R. A. F. Gold Club" — пад эксперыменты з "Анталогіі відэатанца" (сумесь відэаарта з сучасным танцам). Таму і выкарыстоўваем мы наш цудвідэапраектар не толькі наўпрост — для праекцыі фільма на вялікі экран, але і робім з яго дапамогай новае мастацтва: сумесны перформенс з "Барабанным экстазам", прадстаўленне "Перспектыўны відэатанец", відэаінсталяцыя "Сетка". Вельмі спадзяюся і пастараюся, каб гэты спіс быў прадоўжаны.

Мы гнездзіліся ў розных месцах, у розных залах, але ў "Альтэрнатыўным тэатры", які даўно ўжо ператварыўся ў культурны (ва ўсіх сэнсах гэтага слова) цэнтр, — самая спрыяльная аўра, самая творчая атмасфера.

Спадзяюся, што вы, як і кожны іншы наш глядач, заўважылі, што мы стараемся працаваць пад дэвізам, бессаромна ўкрадзеным у савецкага гандлю: "Глядач заўсёды мае рацыю". Таму і ўсміхаемся ўсім шырокай усмешкай, увесь час што-небудзь прыдумваем і рады ўсім, хто прыходзіць да нас за глытком свежага мастацтва.

ЛіМ
ЧАСАПІС



# ЛІСТ АД ЯЎТУХОВІЧА

ЗБОРНІК ПЕСНЯЎ
КАМПАЗЫТАРА
ЗЬМІЦЕРА
ЯЎТУХОВІЧА



1994
НЮ ЁРК ________ САЎТ РЫВЭР
Выданьне часопіса "Беларуская Думка"

**Таямнічы пакет, які трапіў да мяне "з аказіяй", аказаўся пісьмом ад Зміцера Яўтуховіча. Года паўтара мінула, як атабарыўся ён у Амерыцы, у тым самым Саўт-Рыверы, дзе некалі гасцяваў. Жонка ягоная ўладкавалася на працу рэгентам у Беларускую царкву св. Еўфрасінні: за гэта мае заробак ды бясплатную кватэру для сям'і. Дачка ходзіць у школу. Сам Змітрок мае, так сказаць, некваліфікаваную, цяжкую, але пастаянную працу. Пра перспектывы яго кампазітарскай кар'еры меркаваць не магу: для гэтага трэ было б пагутарыць з ім. Дый увогуле — проста хацелася б пабачыцца ды пагаварыць з ім, таварыскім, "лёгкім", добрым хлопцам, адораным на рэдкасць багатымі музыканцкімі вартасцямі.**

**Хто ведае: мабыць, наш таленавіты "ўцякач" верне сябе музыцы, вернецца й на радзіму... Пакуль жа, дзякуй Богу, мы не адгароджаныя "жалезнай заслонай" ды вядомымі ідэалагічнымі прымхамі. Песні Зміцера Яўтуховіча па-ранейшаму ці не штодня ў эфіры: "Пяшчота", "А ў гасцях", "Даставай, Язэп, гармонік", хрэстаматыйная ўжо "Калыханка" ды інш. А ў сваім лісце Змітрок паведаміў пра выданне зборніка ягоных песень, падрыхтаванае дзякуючы прэзідэнту Беларуска-амерыканскага цэнтра ў Саўт-Рыверы Жоржу Навумчыку. У зборнік уключана 40 песень, з іх 18 — для дзяцей. Выданне аздоблена малюнкамі, фотаздымкамі. Апроч папулярных у нас твораў ёсць тут і новыя песні на вершы Л. Пранчака, М. Кавыля, лімаўца Ю. Свіркі, А. Бярозкі, С. Панізніка. З часам Зміцер мяркуе перадаць мне гэты зборнік, а пакуль жа даслаў ксеракопіі асобных яго старонак. Прынамсі, той, дзе паведамляецца, што можна заказаць нават касеты з песнямі Яўтуховіча, дзве розныя: для дзяцей і для дарослых. Раптам хтосьці такую магчымасць мае — тады звярніце ўвагу на адрас: ЗША, "Bielaruskaya Dumka" P. O. Box 26, South River, N. J. 08882.**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

# ПРЫГАЖОСЦЬ, ПАДКАЗАНАЯ ПРЫРОДАЙ



**У Лідскай карціннай галерэі адкрыта другая за гэты год выстава віцебскіх мастакоў. На гэты раз — "Віцебская акварэль. Традыцыі і сучаснасць". Менавіта акварэль — адна з яркіх і цікавых з'яў, якая паспяхова развіваецца ў агульным рэчышчы віцебскай мастацкай школы.**

**Усе ўдзельнікі выставы — прафесійныя мастакі і да таго ж мастакі-акварэлісты. У экспазіцыі — работы васемнаццаці аўтараў. Сярод іх І. Сталяроў, Ф. Гумен, Г. Шутаў, В. Ральцэвіч, В. Ляховіч, А. Шыёнак, М. Ляўковіч, В. Шапо, А. Карпан і іншыя.**

**Пры ўсёй своеасаблівасці кожнага з аўтараў іх аб'ядноўвае выяўленчасць мыслення, якая ідзе ад прыродных форм. Яны тонка адчуваюць і дасканала перадаюць настроі, шматвобразныя станы пейзажаў беларускай зямлі.**

**Выстава карыстаецца нязменнай цікавасцю ў наведвальнікаў. Бо прырода, па словах Канта, акрамя карыснага, шчодра пасылае нам прыгажосць, і за гэта мы любім яе, і адчуваем, што ў гэтым сузіранні робімся больш высакароднымі...**

**Ларыса ДРАКО**
*г. Ліда*

*А. Шыёнак, "Зіма ля возера Дашкава".*
*Фота А. СЕРАБРАКОВА*

Віншуем!

# Івану КІРЭЙЧЫКУ — 60

Нарадзіўся Іван Кірэйчык у вёсцы Гута Ганцавіцкага раёна, скончыў у 1965 годзе тагачаснае аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў газетчыкам, на тэлебачанні, можна сказаць, сваім чалавекам быў і на радыё... Выступаў з нарысамі, рэпартажамі, замалёўкамі, у якіх расказваў пра лепшых людзей, у тым ліку і тых, хто жыве на Палессі. А ў душы жыло жаданне выйсці за межы прывязанасці да пэўных фактаў, асобных біяграфій. Так пачалі з'яўляцца апавяданні І. Кірэйчыка, а да ўсяго, улюбёны ў паэзію, і сам пачаў пісаць вершы.

Цяпер І. Кірэйчык жыве ў Гомелі і, зразумела, у яго творчасці знайшла належнае адлюстраванне і чарнобыльская тэма. Дарэчы, кранулася яна і вершаў, у чым пераконвае і кніга "З маіх крыніц", што стала і свайго роду аўтарскай справаздачай перад 60-годдзем. На мастакоўскім жа рахунку пісьменніка і іншыя выданні — "Багацце душы — людзям", "Пялёсткавы бераг", "Каласам хіліцца долу", "Калінавая замець"...

Віншуем Івана Аляксандравіча з юбілеем! Зычым яму новых поспехаў, новых твораў!



# Навуму ЦЫПІСУ — 60

Як пісьменнік, якому ўдаецца стварыць яркія, запамінальныя характары, Н. Цыпіс заявіў аб сабе ў кнізе апавяданняў "Недзе ёсць горад", якая выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 1979 годзе. Праўда, на той час аўтара нельга было ўжо назваць у літаратуры навічком. Прынамсі, у 1976 годзе ў гэтым жа выдавецтве пабачыла свет яго кніга "Прыгавор", напісаная Н. Цыпісам разам з Г. Кругловым. Яе склалі аповесці — "Прыгавор" і "Ціхія кіламетры", у аснову якіх былі пакладзены сапраўдныя факты, расказвалася пра дзейнасць праваахоўных органаў (дарэчы, гэтая тэма будзе Навуму Фраімавічу не чужой і ў далейшым).

І ўсё ж якраз з'яўленне апавяданняў засведчыла, што ў літаратуру прыйшоў менавіта пісьменнік, а не проста літаратар ці публіцыст. Гэта адчуў і на гэта звярнуў увагу строгі і патрабавальны У. Караткевіч. Незабыўны Уладзімір Сямёнавіч, даючы Н. Цыпісу рэкамендацыю для ўступлення ў Саюз пісьменнікаў Беларусі, пісаў: "Канчаткова пераканала (і чытачоў) у тым, што маем перад сабою дужа здольнага і арыгінальнага аўтара, кніга Н. Цыпіса "Недзе ёсць горад". Я сам рос у невялікім гарадку і таму поўнасцю здолеў ацаніць і шматкаляровае (хаця і далёка не вясёлкавае) апісанне побыту і людзей горада, трагізм і камізм у яго нялёгкім жыцці, іскрысты гумар, багатую моўную стыхію".

Навум Цыпіс нарадзіўся ў горадзе Казацін Вінніцкай вобласці, у 1960 годзе закончыў Курскі педагагічны інстытут. Сталася так, што лёс звязаў яго з беларускай зямлёй. З першымі творамі выступіў у друку ў 1966 годзе. І апавяданні, і аповесці, і нарысы Навума Фраімавіча — гэта, як правіла, уменне не проста знайсці сваю тэму, а і раскрыць яе так, каб чытач сам як бы ўжыўся ў асяроддзе, пра якое гаворыць аўтар. У гэтым сэнсе асабліва вылучаюцца тыя нарысы Н. Цыпіса, праблемныя артыкулы, у якіх ён задумваецца над пытаннямі выхавання падрастаючага пакалення. Зноў жа — герояў ён не шукае. Пэўны час Навум Фраімавіч сам працаваў у сістэме прафесійна-тэхнічнай адукацыі рэспублікі, ведае праблемы, якія ўзнімае ў творах праўдзіва, публіцыстычна завострана.

Арыгінальным атрымаўся ў яго і раман "Балканская рама", які з'явіўся ўслед за кнігай аповесцяў і апавяданняў "Старыя дарогі". Гэтым разам пісьменнік перанёс чытача ў адну з палат навукова-даследчага інстытута траўматалогіі. Сам вобраз балканскай рамы — спецыяльнага прыстасавання, што размяшчаецца над ложкам хворага, — набыў сімвалічнае гучанне. Ратуе людскія душы не толькі гэтая "рама". Ратуе іх моцная сіла волі, таварыскасць.

Сёлета ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" выходзіць новая кніга Н. Цыпіса "Іду і вяртаюся". Аповесці, што склалі яе, на новым матэрыяле і адначасова на больш высокім псіхалагічным узроўні працягваюць праблематыку папярэдніх твораў аўтара. Тут і вяртанне ў ваеннае маленства — галоднае, халоднае, а таму бязрадаснае, і жорсткая праўда аб жыцці навучэнцаў прафтэхвучылішчаў, само жыццё, падгледжанае пільным вокам пісьменніка, якому ёсць што сказаць і які ўмее гэта рабіць па-свойму прывабна і пераканаўча.



З днём нараджэння, Навум Фраімавіч! Поспехаў Вам на нялёгкіх жыццёвых і творчых дарогах!

# ЗАБІТЫ Ў МІНСКУ

Наш зямляк Саламон Міхайлавіч Міхоэлс (ён нарадзіўся 16 сакавіка 1890 года ў г. Дзвінску былой Віцебскай губерні) калі і мае патрэбу ў прадстаўленні і рэкамендацыях, дык, бадай, толькі для маладога чытача, бо для людзей сталага ўзросту ён чалавек амаль што легендарны. Яшчэ да Айчыннай вайны — народны артыст СССР, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага акадэмічнага яўрэйскага тэатра, у гады ваеннага ліхалецця — старшыня Антыфашысцкага яўрэйскага камітэта. Жыццё яго трагічна завяршылася ў ноч з дванаццатага на трынаццатае студзеня 1948 года ў Мінску, куды ён прыехаў як член дзяржкамітэта па Сталінскіх прэміях для прагляду спектакляў "Канстанцін Заслонаў" у Беларускім акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы і оперы "Алеся" ў Беларускім дзяржаўным оперным тэатры.

У дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва Рэспублікі Беларусь адшукаліся шэсць рукапісных старонак на рускай мове пад загалоўкам "Мудрая поговорка", якія вайшлі з-пад пяра беларускага літаратара Іларыёна Барашкі. У іх расказваецца пра сустрэчы з народным артыстам СССР Саламонам Міхоэлсам падчас працы аўтара рэдактарам кінастудыі "Савецкая Беларусь" у Ленінградзе і ў Галоўным упраўленні па кантролі за відовішчамі і рэпертуарам Камітэта па справах мастацтваў пры Савеце Міністраў СССР.

"Михоэлс направлялся в Минск по делам Комитета по присуждению Сталинских премий, — пісаў І. Барашка. — Я ехал в Минск для участия в проведении смотра художественной самодеятельности трудовых резервов Белорусской ССР. С нами в мягком вагоне курьерского поезда возвращался домой Заир Исаакович Азгур, народный художник БССР, известный советский скульптор. В купе разговорились. О творческом подвиге, о мастерстве, о везении в жизни, о заслуженной и незаслуженной славе. И тут в разговор вступил Соломон Михайлович: "Моя мать, знавшая десятки еврейских и белорусских песен, сотни сказок, тысячи еврейских и белорусских пословиц и поговорок, часто мне повторяла: "Не той Саламон, якому шанцуе, а той Саламон, які працуе!". И я тружусь, тружусь безустанно, изо дня в день, памятуя мудрый наказ моей матери..."

Афіцыйнае тлумачэнне смерці С. Міхоэлса — аўтамабільная катастрофа. Але ці не з першых дзён пасля трагедыі папаўзлі чуткі аб далучанасці да яе органаў КДБ.

Заслона над тайнай гібелі С. Міхоэлса была прыўзнята толькі пасля смерці тырана, ды і то падрабязнасці гэтай чорнай справы ад шырокай грамадскасці былі схаваныя.



Нядаўна ў "Аргументах и фактах", а потым і ў часопісе "Новый мир" апублікаваны архіўны дакумент, які ўяўляў сабой ліст члена Палітбюро ЦК КПСС Л. Берыі, адрасаваны тагачаснаму старшыні Саўміна Г. Малянкову ад 2 красавіка 1953 года. У тым лісце, які тычыўся абставін гібелі С. Міхоэлса, галоўны кат краіны крывадушна пісаў, што "убийство Михоэлса и Голубова (тэатральны крытык, які прыехаў з Міхоэлсам. — **І. Р.**) является вопиющим нарушением прав советского гражданина, охраняемых Конституцией СССР". У лісце прыводзілася тлумачэнне міністра дзяржаўнай бяспекі БССР Л. Цанавы: "...зимой 1948 года в бытность мою Министром госбезопасности Белорусской ССР, по ВЧ позвонил мне Абакумов (міністр дзяржбяспекі СССР. — **І. Р.**) и спросил, имеется ли у нас возможность для выполнения одного важного задания И. В. Сталина? Я ответил ему, что будет сделано... Убийство Михоэлса было осуществлено в точном соответствии с этим планом... примерно в десять часов вечера Михоэлса и Голубова завезли во двор дачи. Они немедленно с машины были сняты и раздавлены грузовой автомашиной. Примерно в 12 часов ночи, когда по городу Минску движение публики сокращается, трупы Михоэлса и Голубова были погружены на грузовую машину, отвезены и брошены на одной из глухих улиц города. Утром они были обнаружены рабочими, которые об этом сообщили в милицию".

А неўзабаве ў Маскве пачаўся працэс над членамі Антыфашысцкага яўрэйскага камітэта, працэс, што ўвабраў у сваю арбіту самых вядомых дзеячаў яўрэйскай інтэлігенцыі — вучоных, пісьменнікаў, артыстаў, якіх абвінавачвалі ў яўрэйскім нацыяналізме. Саламон Міхоэлс з-за свайго вялізнага міжнароднага аўтарытэту ў гэтую групу "зланчынцаў" не "ўпісваўся" і таму быў знішчаны загадзя. Што тычыцца тых, хто праходзіў па нагаданым вышэй працэсе, дык пераважная большасць з іх была расстраляна.

**І. РЭЗНІК**

*Здымак І. Ароцкера, які мы прапануем увазе чытача, уваскрашае апошні прыезд С. Міхоэлса ў Мінск. У першым радзе, злева направа: І. Барашка, С. Міхоэлс, Г. Глебаў. Другі рад: дырэктар Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра БССР Я. Гольдшварц, акцёр гэтага тэатра М. Рывін, галоўны адміністратар тэатра імя Я. Купалы А. Гайдарын і У. Голубаў.*





# ШЭСЦЬ ІМГНЕННЯЎ "ВЯСНЫ"

## 9 МАЯ Ў МІНСКУ ЗАВЯРШЫЎСЯ ТРАДЫЦЫЙНЫ ФЕСТЫВАЛЬ МУЗЫЧНАГА МАСТАЦТВА

Праўда, насуперак традыцыі, сёлетняя "Мінская вясна" зацягнулася. Пачатак яе прыпаў на першыя красавіцкія дні, фінальны акорд прагучаў разам са святочнымі залпамі салюту ў гонар 50-годдзя Перамогі. Гэта, вядома ж, невыпадковае супадзенне: неабсяжная і стракатая афіша фестывалю прысвячалася менавіта вялікаму святу перамогі над фашызмам у той страшнай вайне...

Праз нейкі час, калі аціхне хваля эфемерных эмоцый, калі адступяць неабавязковыя, сумятлівыя думкі, а застануцца толькі самыя ўражлівыя назіранні, самыя кранальныя пачуцці, мы яшчэ пагаворым пра "Мінскую вясну-95". Сённяшні ж "ЛіМ" прысвяціў сваю старонку менавіта першым уражанням — тым "спыненым імгненням", з якіх і ткалася адмысловае стракатае музычнае палатно вясны. На гэтым няўгледным сімвалічным палатне пракрэсліваліся рысы чалавечых страсцей і трагедый, матывы Веры і Вечнасці, узоры зямных каштоўнасцей і старых, як свет, спакус... Гэтае няўгледнае і абагульненае гукавое палатно, здаецца, працінала магутная тэма Радасці Жыцця, цуду стварэння Чалавека, імкнення да гармоніі ў душы, да міру — наўкол... Згадайма аўтарскія вечары беларускіх кампазітараў, якія звярнуліся да сваіх слухачоў на самым высокім, духоўным, узроўні: літургічныя харавыя творы С. Бельцюкова, А. Залётнева, новая сімфонія для хору, аркестра і салістаў "Паўночныя кветкі" — А. Мдзівані. Згадайма філарманічныя канцэрты з удзелам будучых прафесійных музыкантаў — студэнтаў Беларускай акадэміі музыкі, навучэнцаў Рэспубліканскага ліцэя пры акадэміі. Згадайма гасцей, якія завіталі на фестываль з Германіі, Расіі, Францыі, Швейцарыі, каб праз таямніцу музычнай творчасці зведаць рэдкасныя хвіліны духоўнага людскога яднання — са сваімі беларускімі калегамі, з чулымі нашымі слухачамі...

Вось некалькі фотаздымкаў, якія, вядома ж, не адлюстроўваюць і сотай часткі разнаітых фестывальных імгненняў. Аднак угледзьцеся ў іх пільна, і, магчыма, вам адкрыецца просты і мудры сэнс "Мінскай вясны", праведзенай у такі неспрыяльны для Культуры час, прысвечанай Перамозе над кашмарам вайны, над пачварнасцю духу, над цемрашальствам, праведзенай годна — і з вераю ў тое, што "сон розуму" не будзе доўгім.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**










*На здымках вы, безумоўна, пазнаеце артыстаў Акадэмічнага народнага аркестра імя І. Жыновіча, яго салістаў — баяністку Святлану Лясун ды "майстра на ўсе рукі" Аляксандра Крамко, у гонар якіх быў зладжаны бенефіс, пазнаеце і дырыжора — маэстра Міхала Казінца. Цікавае імгненне — размова настаўніка з вучнем, размова двух прафесароў-кампазітараў, Анатоля Багатырова ды Андрэя Мдзівані. Трубач Петэр Шэерэр, наш госць з Германіі, выступаў у дуэце са сваім суайчыннікам арганістам Яганэсам Гефертам, поруч з якім і сфатаграфаваў яго наш карэспандэнт.*

*Фота Віт. АМІНАВА*

Ліст тыдня

# ШТО НА ШАЛЯХ АХВЯРНАСЦІ?

Кожны чалавек на зямлі ў пэўнай ступені ахвяра. Ахвяра і ўласнай недасканаласці, і прыроднай непрадказальнасці, і дзяржаўнай палітыкі, і жыццёвых абставін сярод грамадскіх, сямейных жарсцей, і шматлікіх грахоў. Істота, якая найбольш за ўсё свабодная перад Богам (менавіта такі адказ на пытанне "Чаму Усемагутны Бог не можа зрабіць так, каб усе былі і сумленнымі, і добрымі?") — ахвяра перш-наперш гэтай свабоды, крыніцы стваральнага лёсу. На жаль, не кожны яшчэ ўсведамляе, што лёс чалавека не што іншае, як вынік паводзін і чалавека самога, і яго продкаў, ці то цалкам праведных, ці то шмат насваволіўшых. Міна-расплата за грахі чалавечыя заўсёды знаходзіцца побач: то раптоўна спрацоўвае, то замаруджана, часам праз дзесяцігоддзі балюча джгане не толькі самога грэшніка, але і ягоных нашчадкаў, аж да калена чацвёртага. Так засведчана ў Бібліі (Выхад, 20,5). Ёсць над чым задумацца кожнаму, хто зычыць дабра сваім аднакроўным, і дзецям, і ўнукам, і праўнукам. Не без падставы, мабыць, можна лічыць, што рэвалюцыя, Гітлер, Чарнобыль і іншае ліха ў нашым жыцці — з'явы невыпадковыя. Аднаму толькі Богу вядома, за якія грахі мы пакутуем, але ж і самім грэшнікам часам не лішне ўзважыць прычыны падзення свайго перад Богам, каб хутчэй выйсці з сутоння шматаспектнага богаадступніцтва, у якім не апошняе месца займаюць і парушэнні пастоў, і язычніцтва з прымхамі. Чаго толькі не ўтварае дзікунскі разбэшчаны розум дзеля шкурнай карысці? Па цікавым меркаванні А. Вейніка (газ. "Культура", 1993, 15 сак., 21 чэрв.), многа ліха прыдбала сабе Беларусь праз трывалае да гэтага часу язычніцтва. Шмат прыкладаў кожны можа заўважыць і на бытавым узроўні.

Вялебны Серафім Сароўскі ў свой час (не такі ўжо і аддалены) прадказваў, што на Русь ідзе ліхалецце, бо народ парушае пасты ў сераду і пятніцу. Па змесце падобных звычак і беларускі народ апынуўся, як альпіністы ў адзінай звязцы над безданню, разам з атэістычнай Расіяй. Наш час ускладняе праблему: цяпер не толькі кожную сераду і пятніцу, а наогул, усе чатыры пасты вытрымліваюць вельмі нямногія. Ужо і перадсвяточныя дні, што для продкаў былі ахвярнымі, чыстымі, ва ўстрыманні, цяпер — зачэпка для п'янства, службовых гульбішчаў. Не кожны адмовіцца ўдзельнічаць, нават калі ў душы ўжо нешта і кранулася, бо — як успрымуць, што скажуць калегі? Вышэй Бога ім грамадскі прэстыж, мітуслівая бессэнсоўнасць, зрушэнне паняццяў, нават у смерці. Здавалася б, што можа быць больш даступна для ўспрымання, чым натуральны жыццёвы працэс? Бог дае нам жыццё, як за дзецьмі цярпліва ўвесь час назірае, накіроўвае ды навучае, то карай, то ўзнагародай, ён яго і забірае, вылучаючы душы альбо для сябе, альбо, як не прыдатныя рэчы, кідаючы ў вогнішча. Здавалася б, так проста пранікнуцца страхам перад Тварцом за гвалтаванне жыцця, зразумець непазбежнасць гібення ў пекле, немінучасць расплаты лёсам нашчадкаў. Аб неўспрыманні і народам асуджанай Богам ненатуральнасці смерці сведчыць той факт, што з даўніх часоў самагубцаў не дазвалялі хаваць разам з прыстойна памерлымі на хрысціянскіх могілках. Ды і былі то адзінкі. Не тое, што зараз: у цьмяным тунелі няўцямнасці моцных усё больш паднімаецца кволасць, бездапаможнасць, вынішчаецца, гіне без святла крыжа Хрыстова. У кнізе, адзначанай Нобелеўскай прэміяй, "Хрысціна, дачка Лаўрэнса", Унсет Сігрыд прыводзіць цікавы прыклад выратавання ахвяры сатанінскай спакусы самазабойства: перахрысціўшыся, яна быццам здымае заслону з вачэй — вада, што чароўна прыцягвала зіхаценнем і цёплаю прыгажосцю, падалася адразу халоднай, змрочнай, няўтульнай. Шмат зрушэнняў паняццяў адбываецца і падчас памінак. Памінанне памерлых — векавая традыцыя. Толькі што цяпер яна адлюстроўвае? Клопат пра душу нябожчыка, замову на вечную памяць аб ім? Гэта больш выключэнне, чым правіла. Правіла ў наш час — баль для жывых, балазе што без танцаў. Льюцца рэкі гарэлкі. Для гэтае мэты збіраюцца грошы не толькі з суседзяў, калег, дзе-нідзе рассылаюць ганцоў ужо і на суседнія вуліцы, бянтэжачы бедных, чуллівых людзей. Праблема сапраўдная для існых вернікаў — памінкі ў пост. Усе сардэчныя хрысціянскія довады, што нельга рушыць адвечныя правілы, што не трэба гарэлкі, скаромніны, бязбожнікам не рэзон перад рабскай грахоўнай залежнасцю ад грамады. "Скажуць людзі, што паскупіліся, сорамна перад людзьмі". Сцягам лунае грэх асуджэння. Бог, малітва, царкоўны устаў, дапамога душы — штосьці пабочнае, быццам наогул іх не існуе. "Дзе двое ці трое сабраліся ў імя маё, там і я сярод іх", — гаварыў Збаўца (Мцв., 18, 20). Дзе Збаўца, там верагодней збаўленне. "Прасіце і атрымаеце, шукайце і знойдзеце, стукайце і адчыняць Вам" (Лукі, 11, 9). "І ўсё, чаго ні папросіце ў малітве і з вераю, атрымаеце" (Мцв, 21, 22). Толькі што можа прасіць азмрочаны атэізмам, заганнымі звычкамі розум, які ва ўладзе пыхлівасці і гонару, які не ў стане вызначыць ісціну, тым больш, калі мозг яшчэ зацярушаны грашовую ліхаманкай? Ці многа ў нас тых, хто пакліча да сябе ў кватэру ці хоць на дзядзінцы пакорміць чым-небудзь галодных, заадно папрасіўшы іх памаліцца за адышоўшыя душы? "Ці ж я ўсім надаюся, там столькі нахабнікаў, п'яніц, мне сваіх дзяцей глядзець трэба, такі цяжкі час цяпер", — запярэчыла мне аднойчы заможная сваячка, у якой заўчасна памерла маці. У чымсьці яна мае рацыю, з ёю нельга не пагадзіцца, як і з тымі сцвярджэннямі, што жабруюць часам бабулі, якія і маліцца не прызвычаены, для сваіх марнатраўных нашчадкаў. Але ж не будзем судзіць, апяраджваць сан Ісуса Хрыста. Дай Божа людзям сумленным праведныя прыбыткі, каб было і самім усяго ўдосталь і на ахвяраванні не паскупіліся: па Словах Госпада Ісуса Хрыста ў Нагорнай пропаведзі, "Кожнаму, хто просіць у цябе — дай" (Мцв, 5, 42).

Жабрацтва — спадарожнік гістарычна трывалы. У кожнай краіне ёсць жабракі. У нашай жа, пры дзяржаўных маштабах яго развіцця, жабрацтва стала нацыянальнай трагедыяй. Нацыянальная трагедыя... Словаспалучэнне, выкарыстанне якога ўсё болей шырыцца. Трагедыя нацыі — *неўтаймаванае п'янства*, учэпісты наступ наркотыкаў, дэградацыя асобы. Трагедыя нацыі — прыгнечаная родная мова, што ўшанавана законам, але, як куранятка ў бесклапотных гаспадароў, у прыкарэлай шкарлупцы да млосці заціснута. І (які жах для ўсяго жывога такое пытанне) ці выжыве? Трагедыя нацыі — зняважаны герб, што створаны мудра разумнымі продкамі. Гербперасцярога чужынцам: "Ціхмяныя мы, але якія мужныя абаронцы Айчыны!" Быццам і ў адрас нашчадкаў гнеўна даносіцца голас далёкіх продкаў: "Што ж вы ўздумалі бэсціць? Без шанавання гісторыі, адраджэння духоўнага не чакайце спрыяння ў справах". Трагедыя нацыі — разбураныя святыні, пагарда да інтэлігенцыі, маласвядомасць простага люду... Усе палітычныя звадкі, банкруцтвы, прыкрая падлаватасць асобных палітыкаў, эканамічныя разбалансоўкі адступаюць перад самай жудаснай нацыянальнай трагедыяй — чарнобыльскімі хваробамі дзяцей. Няма патрэбы паўтараць жорсткасць статыстыкі, што час ад часу мільгае трывожнымі святлафорамі на скіроўванне сродкаў.

У царкве святой Марыі Магдалены ў Мінску прыемна ўражвае ахвяравальная скрыначка на лячэнне хворых дзяцей. Думаецца, што чым больш вакол нас будзе такіх вось скрыначак, чым актыўней будзем мы іх напаўняць, тым хутчэй ачуняе душой наша нацыя, асабліва калі ўзносамі стануць яшчэ і хаўрусныя сродкі на панадны паўсюдны прапой. Каб на любай Радзіме, распраўляючы крыльцы, радаснымі птушаняткамі шчабяталі здаровыя дзеці. Каб не гублялі надзеі на спачуванне людское тыя, каго не пачулі ("Звязда", 1993, 22 кастр. І той жа здымак з дзецьмі і просьбай-плакатам аб дапамозе ў газеце "Царкоўнае слова", N 7, 1994). Каб яшчэ доўга выстуквала сваё захапленне прыродай сэрца песняра роднага краю Яраслава Сільвестравіча Пархуты ("ЛіМ", 1995, 3 сакавіка), каб намаганнямі незнаёмых людзей саграваліся сэрцы адзінокіх і састарэлых... — хай гэта "каб" знойдзе свой адмысловы працяг у кожным асобным сэрцы.

У 1881 г. Л. М. Талстой пісаў пра чалавека, пад уплывам якога менавіта з гэтага 1881 г. ён адмовіўся ад ганарараў. "Яму 60. Ён жабрак. Усё аддае, заўсёды вясёлы і лагодны". Чалавекам гэтым быў бібліятэкар Румянцаўскага музея (будучай Ленінкі). М. Ф. Фёдараў (1828—1903), надзвычай набожны прагрэсіўны мысліцель са своеасаблівай філасофскай канцэпцыяй, аўтар шэрагу перадавых бібліяграфічных ідэй, які лічыў, што плён чалавечай думкі — набытак грамадства. "У продажы разумовай працы ёсць нешта прыкрае. Калі прадаецца мудрасць, то яна, мабыць, не мудрасць", — пісаў, развіваючы думку Фёдарава, Л. М. Талстой. Безумоўна, граф, якога абцяжарвала ўласнае багацце, мог так разважаць. У наш час падобная жыццёвая формула прагучыць для некаторых не толькі наіўна, але і смешна, ці наогул псіхічна не адпаведнай. І ўсё ж — "блажэнныя літасцівыя..." Будзем жа літасцівымі. Да сваёй гісторыі, мовы — падмуркаў нацыянальнага росквіту, да нашчадкаў.

**Сястра ЛАРЫСА**

*(Ганарар за артыкул прашу пералічыць на адпаведны рахунак на лячэнне хворых чарнобыльскіх дзяцей)*

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Кепска забудоўвалі сталіцу, шэрыя зацверджаны праекты. Ну а хто рашаў, на чым спыніцца, дзе ён той нябачны архітэктар? Безгустоўшчыне праклаўшы след, знік *з зямлі* Цэнтральны Камітэт. Што цяпер мастацтвазнаўцаў звягі, вось яны — "Экспо" і "саркафагі".

•

— Што чытаеце з класікаў? — спыталі народнага. — Мушу грэх узяць на душу: ведаю многіх, а не чытаю ніводнага, нават сябе не чытаю — пішу!

•

Наваліліся бядоты на сяло, а не траціць веры людзі, бо ніколі не было, каб нічога не было, а як нешта ёсць, дык і неяк будзе — не ў цуды ж вераць людзі.

•

Мазаляногія сабраліся ў дарогу.

— Не варта адрываць чэрава ад зямлі, — буркатнулі бруханогія.

— Добра пашнарыўшы, можна пракарміцца і тут, — прарыпелі вусаногія.

— Асабліва калі закапаешся ў зямлю, — прабубнелі лапатаногія.

— Ці плюхнешся ў ваду, — булькатнулі ластаногія.

— Можна проста садзіцца і ўзлятаць, садзіцца і ўзлятаць, — *пралепяталі* крыланогія.

— Хай едуць, — сказалі галаваногія, — ім трэба новыя мазалі на іншай зямлі, каб потым тужыць аб пакінутай.

•

Як звяліся кентаўры? Спачатку аб'ядналіся, тады размежаваліся, і выявілася, што нават з двух кентаўраў нельга скласці аднаго каня ці аднаго чалавека.

•

У нашай вёсцы клуб закрыўся, кіно не будзе, хоць крычы. У чым прычына — кіншчык спіўся? Ды каб — спіліся гледачы.

•

Многа змен прынёс з сабою рынак, іншую цяпер шануюць чыннасць, баязлівасць — гэта ці не мудрасць, а сумленнасць — рыцарскі ўчынак.

•

Сабака брэша, а няма таго смаку, з якім на сабаку брэша сабака. Толькі на цені далёкіх продкаў сабака брэша ва ўсю сваю глотку. Зрэшты, гэта доля сабачая — гаўкаць на спадчыну.

•

Целаахоўнікі, ахоўнікі цела, тыя, што крумкачамі выглядаюць з-за начальніцкіх раменаў, і тыя, што пільным вокам абшарваюць мікраранаў, і тыя, што расстаўлены па перыметру жылых раёнаў, падазрона прыглядаюцца да пасажыраў на вакзалах і ў аэрапортах, уладарным жэстам спыняюць аўтамашыны, абязлюджваюць вуліцы і плошчы... Якое ж яно вялікае, начальніцкае цела! І ці ганарыцца нам, што па колькасці ахоўнікаў на адзінку начальства родная дзяржава — з першых?

•

Адолеў гравітацыі цяжар, узнёсся і лунаў, знясілены. І тут ужо ці не з-пад самых хмар нехта капнуў на патыліцу.

ЛіМ
Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932-35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935-41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945-46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947-49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949-50)* |
| *В.Вітка* | *(1951-57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957-59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959-61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961-69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969-72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972-76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976-80)* |
| *А.Жук* | *(1980-86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986-90)* |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Жана ЛАШКЕВІЧ
Алесь МАРЦІНОВІЧ
Барыс ПЯТРОВІЧ, *першы намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА
Віктар ШНІП, *намеснік галоўнага рэдактара*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі -- *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара -- *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі -- *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі -- *331-985*
літаратурнага жыцця -- *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі -- *332-204*
паэзіі і прозы -- *332-204*
музыкі -- *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання -- *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- *332-462*
навін -- *332-462*
мастацкага афармлення -- *332-204*
фотакарэспандэнт -- *332-462*
бухгалтэрыя -- *268-640*

*Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**
**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 10979.
Нумар падпісаны 11. 5.1995 г.
ЗАКАЗ 1429
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12